ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (150) верасень 2023 год

CATHOLICNEWS.BY



Стар. 7

Сустрэча ўдзельнікаў апостальскага руху “Маргарытка” Віцебскай дыяцэзіі



Стар. 3

Малітва і асвячэнне памятнай дошкі ў першую гадавіну смерці святара-езуіта адбыліся ў Віцебску



Стар. 6-7

З памежнікаў – у манахі. Шчырая размова з айцом-марыянінам Іллёй Саўчанкам




Стар. 7

“Езу, у сэрцы Ты маім”: VII Парафіяда для дзяцей і моладзі прайшла ў Дзеркаўшчыне



Стар. 10

Катэхеты Віцебскай дыяцэзіі распачалі разам новы катэхетычны год



Стар. 10

У Мінску адзначылі 225-годдзе з часу заснавання Мінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі




Стар. 4

З чаго пачыналася гісторыя парафіі ў Германавічах

**Біскуп Юрый Касабуцкі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам падчас парафіяльнай урачыстасці ў Мёрах**

Стар. 14



# Папа Францішак падзякаваў манголам за прыём і прывітаў кітайскі народ


Папа Францішак з біскупамі Ганконга

**Пасля заканчэння святой Імшы на Стэпавай арэне ва Улан-Батары Святы Айцец падзякаваў уладам і народу Манголіі за гасціннасць і дар сяброўства, а таксама даслаў прывітанне кітайскаму народу.**

Перад тым, як падзякаваць мангольскаму народу за сардэчны прыём, Папа запрасіў да сябе двух кітайскіх біскупаў і сказаў наступнае: “Гэтыя два браты – біскупы: біскуп Ганконгскі на пенсіі і цяперашні біскуп Ганконга. Я хацеў бы скарыстацца іх прысутнасцю, каб пасладь цёплае прывітанне высакароднаму кітайскаму народу. Усяму народу я жадаю ўсяго найлепшага, рухацца наперад, заўсёды ісці да прагрэсу. А кітайскіх католікаў я прашу быць добрымі хрысціянамі і добрымі грамадзянамі”.

Затым Папа Францішак заўважыў, што адправіўся ў пілігрымку “з вялікім чаканнем”, з жаданнем сустрэцца з народам Божым, які жыве ў Манголіі. Ён падзякаваў Богу за гэты народ, за тое, што Ён любіць чыніць вялікія справы праз малых.

Пантыфік падзякаваў мангольскім вернікам за тое, што яны “добрыя хрысціяне і сумленныя грамадзяне”, і заахвоціў іх ісці наперад, адчуваючы блізкасць і падтрымку ўсяго Касцёла і, перш за ўсё, “ласкавы погляд Пана, Які ні пра каго не забывае і з любоўю глядзіць на кожнага”.

Святы Айцец прывітаў біскупаў, святароў, кансэкраваных асобаў і ўсіх сяброў, якія прыехалі ў Манголію з розных куткоў вялізнага азіяцкага кантынента, а таксама выказаў асаблівую падзяку ўсім, хто дапамагае мясцоваму Касцёлу, падтрымліваючы яго духоўна і матэрыяльна.

Удзячнасць за падрыхтоўку апостальскага візіту, а таксама за прыём і сардэчнасць выказаў Пантыфік прэзідэнту і ўраду Манголіі.

Папа шчыра прывітаў “братоў і сясцёр з іншых хрысціянскіх канфесій і рэлігій”, запрашаючы іх “працягваць расці разам у братэрстве”, як насенне міру ў свеце, спустошаным шматлікімі войнамі і канфліктамі. Усім тым, хто цяжкай працай і малітвай зрабіў яго падарожжа выдатным і магчымым, Папа Рымскі сказаў “сардэчны дзякуй”.

Нарэшце, Папа Францішак выказаў вялікую ўдзячнасць мангольскаму народу “за дар сяброўства”, які ён атрымаў у гэтыя дні, за здольнасць шанаваць самыя простыя аспекты жыцця, захоўваць традыцыі і адносіны, за клопат і ўвагу да штодзённасці.

Напрыканцы прамовы Папа прачытаў малітву езуіта П’ера Тэяра дэ Шардэна, складзеную сто гадоў таму ў пустыні Ордас, дзе ён займаўся геалагічнымі даследаваннямі. Жадаючы цэлебраваць Імшу, але не маючы ні хлеба, ні віна, ён прынёс у ахвяру Пану прыгажосць Яго стварэння на світанні, прадчуваючы, што Эўхарыстыя заўсёды “цэлебруецца на алтары свету” (Laudato si’, 236) і “з’яўляецца цэнтрам жыцця сусвету, цэнтрам, напоўненым любоўю і невычэрпным жыццём”.

“Браты і сёстры Манголіі, дзякуй вам за ваша сведчанне! Хай блаславіць вас Бог! Вы ў маім сэрцы, і ў маім сэрцы застанецеся. Калі ласка, узгадвайце мяне ў сваіх малітвах і думках”, – такімі словамі завяршыў сваю прамову Папа Францішак.

# Папа Францішак да юрыстаў: “Служыце праўдзе і справядлівасці”

**“Спрыяць вяршэнству закона і памятаць, што ў кожнага чалавека ёсць як правы, так і абавязкі ў адносінах да грамадства”, – заклікаў Святы Айцец юрыстаў з еўрапейскіх краін.**

21 жніўня Папа Францішак прыняў на аўдыенцыі ў Ватыкане дэлегацыю юрыстаў з дзяржаў-чальцоў Рады Еўропы, якія 11 чэрвеня 2022 года падпісалі Венскую дэкларацыю аб вяршэнстве закона і незалежнасці судовай улады. У сваім звароце Папа падзякаваў юрыстам за іх важны ўклад у прасоўванне дэмакратыі і павагі да свабоды і чалавечай годнасці. Сацыяльна-эканамічны крызіс, а таксама крызісы ідэнтычнасці і бяспекі кідаюць выклік дэмакратычным краінам Захаду, патрабуючы ад іх эфектыўнага рэагавання. Пры гэтым яны павінны заставацца вернымі сваім прынцыпам, абарона якіх “патрабуе вялікай пільнасці”, – адзначыў Пантыфік.

**Абарона чалавечай годнасці**

Страх перад грамадзянскімі беспарадкамі, дэстабілізацыяй і гвалтам можа прывесці да спакусы абмежаваць, прынамсі часова, вяршэнства закона ў спробе знайсці простыя і неадкладныя рашэнні. Але вяршэнства закона не дапускае ніякіх выключэнняў, у тым ліку ў час крызісу, “бо стаіць на службе чалавека і накіравана на абарону годнасці кожнай асобы. Гэта прынцып”, – лічыць Пантыфік.

**Цэнтральная роля асобы**

На думку Папы, свабодзе і вяршэнству закона ў дэмакратычных краінах пагражаюць не толькі крызісы, але і памылковае ўяўленне пра чалавечую прыроду. Асновай годнасці кожнай асобы з’яўляецца яе трансцэндэнтнае паходжанне, якое патрабуе павагі да цэнтральнай ролі асобы і забараняе любыя замахі на чалавечую годнасць. У адваротным выпадку ўсё залежыць ад капрызаў і выпадковых рашэнняў. Страта трансцэндэнтнага вымярэння пагражае Еўропе стратай яе “гуманістычнага духу”, – папярэдзіў Святы Айцец.

**Правы і абавязкі чалавека**

Папа Францішак звярнуў увагу на тэндэнцыю сучаснага грамадства “патрабаваць усё больш і больш індывідуальных правоў, забываючы, што кожны чалавек з’яўляецца часткай сацыяльнага кантэксту, у якім яго правы і абавязкі звязаныя з правамі і абавязкамі іншых, а таксама з агульным дабром усяго грамадства”. Недакладнае разуменне канцэпцыі правоў чалавека могуць зрабіць людзей ахвярамі “дыктатуры рэлятывізму”, “этычных сістэм, якім не хапае дабрыні, інтэлектуальных дыскурсаў, пазбаўленых мудрасці”, – заўважыў Святы Айцец.

**Адвакацкая таямніца**

Папа разумее і падзяляе заклапочанасць юрыстаў у сувязі з парушэннямі фундаментальнага прынцыпу прафесійнай таямніцы ў некаторых краінах. “Важна, каб наша грамадства захоўвала формы канфідэнцыйных зносін, у якіх людзі могуць сказаць праўду і скласці з сябе цяжар адказнасці”, – адзначыў Францішак, правёўшы паралель паміж таямніцай споведзі ў Касцёле і адвакацкай таямніцай.

**Навакольнае асяроддзе**

Папа падзякаваў еўрапейскім юрыстам за клопат па захаванні Зямлі, “нашага агульнага дома”, а таксама за “гатоўнасць працаваць над нарматыўнай базай, накіраванай на абарону навакольнага асяроддзя”. “Я працую над другой часткай Laudato si”, – дадаў ён.

Папа Францішак заклікаў еўрапейскіх юрыстаў “праяўляць настойлівасць у ажыццяўленні сваёй прафесіі, накіраванай на служэнне праўдзе і справядлівасці, неабходным для ўмацавання міру ва ўсім свеце і гармоніі ў нашым грамадстве”.

Напрыканцы звароту Святы Айцец даверыў сваіх гасцей заступніцтву Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Іва, апекуна юрыстаў.


*Старонкі 2 і 3 падрыхтаваныя па матэрыялах Vatican News*

# Папа Францішак сустрэўся з Апостальскім нунцыем у Беларусі

**Зала Друку Святога Пасада паведаміла пра сустрэчу Святога Айца Францішка з арцыбіскупам Антэ Ёзічам, Апостальскім нунцыем у Беларусі.**

Пара змест размовы падчас аўдыенцыі, якая прайшла 8 верасня раніцай у ватыканскім Апостальскім палацы, не паведамляецца.

Антэ Ёзіч з’яўляецца прадстаўніком Папы Францішка ў Беларусі з 21 мая 2020 года. Ён стаў другім харвацкім іерархам на пасадзе Апостальскага нунцыя ў Беларусі. З 15 верасня 2004 года па 15 ліпеня 2011 года дыпламатычнае прадстаўніцтва Святога Пасада ў краіне ўзначальваў арцыбіскуп Марцін Відавіч, каторы, як і цяперашні нунцый, належыць да духавенства Спліцка-Макарскай архідыяцэзіі.



# Папа Францішак сустрэўся з акцёрам Сільвестрам Сталонэ

**Папа Францішак прыняў на прыватнай аўдыенцыі 77-гадовага амерыканскага акцёра, рэжысёра і кінапрадзюсара Сільвестра Сталонэ.**

Сталонэ, вядомы галоўным чынам па ролях у фільмах “Рокі” і “Рэмба”, прыйшоў на аўдыенцыю з сям’ёй. Ён прыехаў у Італію, каб разам са сваім братам Фрэнкам, вядомым музыкантам, атрымаць ганаровае грамадзянства Джоя-дэль-Коле каля Бары, адкуль паходзіць яго сям’я.

Гэта не першая сустрэча Святога Айца з прадстаўнікамі свету кіно. У снежні 2022 года ён прымаў на прыватнай аўдыенцыі Раберта Беніні, 70-гадовага італьянскага акцёра і коміка, вядомага надзвычай экспрэсіўнай манерай паводзінаў.

Прымаючы ў снежні 2019 года на аўдыенцыі ў Ватыкане прадстаўнікоў Каталіцкай асацыяцыі аператараў кінапаказаў – касцельнай арганізацыі, якая спрыяе дзейнасці парафіяльных і грамадскіх кінатэатраў, Пантыфік заўважыў, што кіно – гэта моцны інструмент аб’яднання, яно выклікае пачуцці і фарміруе погляд чалавека на рэчаіснасць.

# Папа каталікам Манголіі: малалікасць – не праблема, а рэсурс

**Малалікасць з'яўляецца рэсурсам, самае важнае – шчырая вера, — падкрэсліў Святы Айцец падчас сустрэчы з біскупамі, святарамі, кансэкраванымі асобамі і свецкімі душпастырскімі работнікамі, якія служаць у Манголіі.**

Папа Францішак звярнуўся да прадстаўнікоў Касцёла ў Манголіі 2 верасня 2023 года ў катэдральным касцёле святых Пятра і Паўла ва Улан-Батары. Ён нагадаў пра гісторыю хрысціянскай веры на тэрыторыі гэтай краіны і руплівае служэнне шматлікіх місіянераў, а потым прапанаваў задумацца: "Чаму людзі прысвячаюць сваё жыццё Евангеллю?".

На думку Папы, яны робяць гэта "бо – як нагадвае 34 псальм – яны пакаштавалі, адчулі добры смак, спазналі ў сваім жыцці ласкавасць любові Бога", таго Бога, "які стаў бачным, датыкальным, якога можна сустрэць у Езусе".

Святы Айцец перакананы, што Езус Хрыстус – гэта "Добрая навіна, прызначаная для ўсіх народаў, гэта пасланне, якое Касцёл павінен пастаянна абвяшчаць, увасабляць у сваім жыцці і "нашэптваць" сэрцам кожнага чалавека і ўсіх культур".

Пантыфік згадаў пра шматлікія дабрачынныя ініцыятывы Касцёла ў Манголіі – "візітную картку" хрысціян, дзякуючы якой яны заслужылі павагу і пашану суайчыннікаў. Папа заклікаў "працягваць ісці гэтым шляхам, які аказаўся плённым і карысным для дарагога мангольскага народа", а таксама заўсёды трымаць позірк на абліччы Хрыста.

"Браты і сёстры, хрысціянскае жыццё нараджаецца з сузірання гэтага аблічча: гэта пытанне любові, штодзённай сустрэчы з Панам у Божым слове і Хлебе жыцця, у абліччы іншага, у патрабуючых, у якіх прысутны Езус", — сказаў Святы Айцец.

Папа Францішак заклікаў місіянераў заўсёды заставацца ў кантакце з Панам, шукаючы Яго ў Святым Пісанні і сузіраючы Яго ў цішыні адарацыі перад табернакулюмам, распазнаючы Яго ў абліччах людзей, якім служаць і такім чынам адчуваючы глыбокую радасць і супакой у сэрцы, якіх не змогуць пазбавіць нават цяжкасці.

"Неабходна вярнуцца да крыніцы, да аблічча Езуса, да Яго прысутнасці, якую трэба пакаштаваць: гэта Ён наш скарб, каштоўная жамчужына, дзеля якой варта аддаць усё", — сказаў Пантыфік, дадаючы, што людзі ў Манголіі маюць "абвостранае адчуванне святасці" і шукаюць сапраўднага сведчання.

Святы Айцец падкрэсліў, што Касцёл павінен "абапірацца толькі на шчырую веру, бяззбройную магутнасць Уваскрослага, якая абяззбройвае, здольную аблегчыць пакуты параненага чалавецтва". "Вось чаму свецкім уладам і ўстановам няма чаго баяцца ў евангелізацыйнай дзейнасці Касцёла, бо яна не мае палітычнай павестцы дня, якую трэба рэалізоўваць, але ведае толькі пакорную сілу ласкі Бога і Слова міласэрнасці і праўды, здольныя спрыяць дабру ўсіх", — сказаў ён.



Папа Францішак заклікаў мангольскіх святароў і свецкіх бачыць у сваім біскупе "не менеджара, але жывы вобраз Хрыста, Добрага Пастыра, які збірае і вядзе свой народ; вучня, напоўненага апостальскім харызматам, каб будаваць наша братэрства ў Хрысце і ўсё больш і больш укараняць яго ў гэтым народзе з высакароднай культурнай тоеснасцю". Ён запэўніў каталіцкую супольнасць Манголіі ў блізкасці ўсяго Касцёла і заклікаў яе да еднасці паміж сабой і з біскупам, што ўжо з'яўляецца абвяшчэннем веры і дапамагае інкультурацыі веры.

Святы Айцец падкрэсліў таксама, што Касцёл павінен быць салідарным з беднымі, не маўчаць перад абліччам несправядлівасці і з лагоднасцю працаваць на карысць годнасці кожнага чалавека. "Працягвайце так – пастаянныя ў малітве і крэатыўныя ў любові, моцныя ў еднасці, радасныя і лагодныя ва ўсім і з усімі", — заахвоціў духавенства Пантыфік, падкрэсліваючы, што малалікасць мясцовага Касцёла – гэта не праблема, а рэсурс, таму што Бог любіць малых і чыніць вялікія справы менавіта праз іх.



Папа Францішак у базіліцы Санта-Марыя-Маджорэ

## Пантыфік падзякаваў Багародзіцы за візіт у Манголію

**Святы Айцец здзейсніў традыцыйны візіт у рымскую базіліку Санта-Марыя-Маджорэ, каб падзякаваць Багародзіцы за апостальскае падарожжа ў Манголію.**

4 верасня 2023 года, вярнуўшыся з 43-га Апостальскага падарожжа ў Манголію, Папа скіраваўся ў базіліку Санта-Марыя-Маджорэ, каб памаліцца перад абразом Salus Populi Romani. Памаліўшыся Багародзіцы, Папа вярнуўся ў Ватыкан.

Пантыфік заўсёды даручае Панне Марыі ўсе свае апостальскія падарожжы, распачынаючы і завяршаючы іх у прысвечанай ёй рымскай святыні.

Святы Айцец здзейсніў паездку ў Манголію з 31 жніўня па 4 верасня 2023 года. Галоўнай мэтай падарожжа было знаёмства з мангольскім народам і яго культурай, а таксама сустрэча з мясцовай каталіцкай супольнасцю.

Падчас знаходжання ва Улан-Батары Папа Францішак сустрэўся з мангольскай жанчынай, маці адзінаццаці дзяцей, якая знайшла на сметніку драўляную статую Марыі і шмат гадоў захоўвала яе дома, каб потым перадаць у мясцовую каталіцкую парафію.



Фігурка Марыі, знойдзеная на сметніку і вернутая каталіцкай супольнасці Манголіі

## Малітва і асвячэнне памятнай дошкі ў першую гадавіну смерці святара-езуіта адбыліся ў Віцебску

**3 верасня, у першую гадавіну смерці а. Станіслава Памыкалы SJ, у касцёле святога Ігнацыя памаліліся за яго і асвяцілі памятную дошку. Святую Імшу, на якую прыйшлі знаёмыя, супрацоўнікі і былыя парафіяне святара з усяго горада, узначаліў біскуп Алег Буткевіч.**



На пачатку літургіі а. Віктар Жук SJ, пробашч парафіі святога Уладзіслава, прывітаў біскупа Алега і іншых гасцей і падзякаваў ім за тое, што яны знайшлі час, каб разам ушанаваць памяць а. Станіслава. Таксама пробашч павіншаваў прысутных школьнікаў, студэнтаў і настаўнікаў з пачаткам новага навучальнага года.

Успамінаючы айца-езуіта падчас казання, біскуп Алег сказаў: "Сёння асабліва молімся за святой памяці а. Станіслава, які тут пакінуў сваё сэрца, а дошка, якую асвяцім, будзе нагадваць нам пра яго. Дзякуем Богу за дар яго жыцця і паслугу, асаблівым чынам у нашай дыяцэзіі. Айцец Станіслаў быў сапраўдным місіянерам усходу. Вы ведаеце, што ён шмат гадоў працаваў у Расіі, а тут ён бачыў магчымасць для пачатку хрысціянскага паяднання".

"Езус нам сёння кажа, што без клопату пра збаўленне ўсё астатняе траціць сэнс. Усе гэтыя цяжкасці і праблемы, якія мы сёння маем, паходзяць у першую чаргу з таго, што чалавек ігнараваў і адкідваў шмат гадоў на постсавецкай прасторы існаванне асноўнай сваёй часткі. Чалавек – істота духоўна-цялесная. Да такога разумення мы сёння пастаянна павінны вяртацца, пастаянна гэта ўсведамляць.

Сёння Езус гаворыць нам: "Хто хоча зберагчы жыццё, той яго страціць". Езус кажа пра тых, хто хоча зберагчы толькі фізічнае жыццё. А той, хто на першае месца паставіць збаўленне сваёй душы, будзе жыць.

Айцец Станіслаў вучыў нас менавіта гэтым рэчам, спрабаваў нас у гэтым пераканаць, і, перадусім, сам вёў жыццё духоўнага чалавека. Таму няхай яго малітва нам дапамагае і ўмацоўвае нас на шляху духоўнага ўзрастання, дзеля якога ён працаваў", – сказаў біскуп.

На заканчэнне літургіі адбылося асвячэнне памятнай дошкі і малітва "Анёл Панскі" за святой памяці а. Станіслава.

Айцец Станіслаў Памыкала SJ адышоў у вечнасць 3 верасня 2022 года. Ён служыў у парафіі св. Уладзіслава з 2017 па 2020 гады. У Віцебскай дыяцэзіі нёс паслугу з 2011 года: спачатку ў парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім, пасля ў парафіі Святога Антонія Падуанскага ў Віцебску. Да таго а. Станіслаў служыў у Расіі, у Сібіры, і шмат выязджаў у іншыя краіны для прапаведавання і правядзення духоўных практыкаванняў па метадзе святога Ігнацыя Лаёлы.



***Лаліта Арлоўская,** тэкст*
***а. Клеменс Верт SJ,** фота*

# З чаго пачыналася гісторыя парафіі ў Германавічах

**Сёлета ў Германавічах адсвяткавалі 460-годдзе мястэчка. Такая падзея дае нагоду, каб узгадаць пра пачатак гісторыі гэтага вельмі цікавага паселішча, а таксама каталіцкай парафіі ў ім.**

Першая згадка пра Германавічы звязаная з перыядам вайны, якую маскоўскі цар Іван Жахлівы распачаў супраць Вялікага Княства Літоўскага. У 1563 годзе ён захапіў Полацк. Гэтая вайна стала катастрофай для невялікай каталіцкай супольнасці, якая існавала ў Полацку і гуртавалася вакол кляштара бернардынаў. Маскоўскія жаўнеры забілі каталіцкіх манахаў, а таксама мясцовых габрэяў. Захапіўшы Полаччыну, акупанты ўзяліся апісваць межы захопленай тэрыторыі. Вось у гэтых дакументах, называных "пісцовымі кнігамі", і прыгадваюцца першы раз Германавічы.

Праўда, афіцыйная дата першай згадкі разыходзіцца з гістарычнымі дакументамі. Калі ўважліва чытаць зборнікі архіўных крыніц, дзе друкаваліся "пісцовыя кнігі", можна ўбачыць, што ўрывак, які датычыць Германавічаў, датуецца не 1563 годам, а красавіком 1566-га.

Тагачасныя Германавічы названыя сялом у "Друйскай воласці" і ляжалі на левым беразе ракі Дзісёнкі (тым, дзе цяпер касцёл). Адміністрацыйна гэтая мясцовасць належала да Браслаўскага павета Віленскага ваяводства. "Друйская воласць" – гэта былі прыватныя ўладанні рода Сапегаў, да якіх адносіліся Друя, Іказнь і Новы Пагост. У 1563 годзе левы бераг Дзісёнкі не патрапіў пад маскоўскую акупацыю. А вось правы бераг належаў да Полацкай зямлі, пазней – Полацкага ваяводства, і часова быў пад уладай Масквы. У 1579 годзе вялікі князь літоўскі і кароль польскі Стэфан Баторы вызваліў Полаччыну. На карце, якую ў 1580 годзе выдаў каралеўскі картограф Станіслаў Пахалавіцкі, сярод іншых паселішчаў рэгіёна былі пазначаныя "Hermanowice".

У XVI стагоддзі жыхары Германавічаў былі праваслаўнымі. Праўда, глыбей зазірнуўшы ў гісторыю, нельга не згадаць, што калі ў 988 годзе была ахрышчана Русь, а ў 992 годзе ўтворана епархія ў Полацку, Царква яшчэ была адзіная. Раскол, калі праваслаўныя, падпарадкаваныя патрыярху ў Канстанцінопалі, перасталі прызнаваць уладу Рыма, адбыўся ў 1054 годзе.

Уладальнікі гэтай часткі Паазер'я – Сапегі – дзейнічалі на карысць вяртання адзінства Царквы. У гістарычных дакументах захавалася згадка, што Іван Сапега, які ў 1501 годзе ездзіў з пасольствам у Рым, атрымаў дазвол, каб у касцёле ў Іказні служылі набажэнствы святары як лацінскага, так і візантыйскага абрадаў, которыя былі ў адзінстве з Рымам. Але гэта была толькі спроба. А сапраўднае каноніччнае адзінства з Апостальскай Сталіцай вярнулі ў 1596 годзе ў выніку Берасцейскай царкоўнай уніі. Тады была ўтвораная Грэка-Каталіцкая Царква, вернікі якой прызнавалі ўладу Папы, але ў набажэнствах і ўсім рэлігійным жыцці захоўвалі ўсходні абрад.

**Дык вось жа, першая хрысціянская святыня ў Германавічах, пра якую нам вядома з гістарычных дакументаў, была грэка-каталіцкай.**

Самы стары дакумент, каторы датычыць царквы ў Германавічах, і з каторым удалося азнаёміцца дзякуючы дапамозе архівіста Дзяніса Лісейчыкава, адносіцца да 1703 года. Царква мела тытул Перамянення Пана. Пробашчам быў святар Кіпрыян Рукшынскі. Што да часу пабудовы, то ў дакуменце сказана: царква была збудаваная шэсцьдзясят гадоў таму, фундавалі яе Сапегі. Такім чынам, узвядзенне той святыні можна аднесці да 1640-х гадоў. Магчыма, больш верагоднай датай яе заснавання быў 1639 год, бо ў тым годзе Сапегі заснавалі грэка-каталіцкую царкву ў Старой Шаркаўшчыне. Таму парафія ў Германавічах даволі старая. Прыкладна ў той самы час, у 1640-я гады, былі збудаваныя парафіяльны і кармеліцкі касцёлы ў Глыбокім, касцёл францішканаў у Удзеле. (Маюцца на ўвазе даўнейшыя драўляныя святыні, бо цяперашнія, мураваныя, паўсталі пазней).

У 1739 годзе Сапегі прадаюць Германавічы з наваколлем Гільзэнам. У другой палове XVIII стагоддзя ўладальнік маёнтка Юзаф Гільзэн прыняў пад сваю апеку небагатага шляхціца Ігната Шырына, дапамог яму атрымаць адукацыю і прызначыў яго адміністратарам сваіх маёнткаў. Шырын сур'ёзна бярэцца за развіццё маёнтка, а ў 1776 годзе выкупляе ад Гільзэна ўвесь "германавіцкі ключ", які складаўся з Германавічаў, суседніх вёсак Цярэшкі, Лагуны, Мікіцёнкі, Прошкі, Азёры і фальваркаў Падоршчына, Белы Двор, Прамяны, Мар'янполле, Красоўшчына.

Адна з крыніц 1784 года пералічвае, што здзейсніў у Германавічах і наваколлі Ігнат Шырын. Вакол фальварка Белы Двор, дзе Ігнат Шырын меў галоўную сядзібу, быў выкарчаваны лес, а поле прарэзалі меліярацыйныя каналы. Насенне кветак і зёлак, якія раслі ў маёнтку, замаўлялі з Парыжа. Таксама ў маёнтку сеялі пшаніцу і жыта французскіх гатункаў, а гарох – з Сібіры. Некаторыя азёры на балоце Ельня ўладальнік зарыбіў плоткай, ляшчом, судаком і вугром. З Пагоста ў Германавічы праз некалі балотную мясцовасць збудавалі новую прамую дарогу. "Гэтую грэблю ўсе, хто праязджаюць, хваляць, а асабліва вазакі і купцы, што маставога за патрачаны вялікі кошт на ёй добры гаспадар і фундатар не бярэ. Калі прыязджаеш у мястэчка, стаіць вялікая новазмураваная царква, якую заканчваюць бяліць. Дзве прыстойныя аўстэрыі, гарадскія дамы, старая руская ўніяцкая царква, пры якой пароx германавіцкай парафіі", – піша аўтар. Таксама, пачынаючы з 1776 года, дакументы згадваюць "Новае Места" – частку Германавічаў на правым беразе Дзісёнкі. У Старым Месце, на левым беразе, былі дваццаць два дамы. А "новая царква", якая ў 1784 годзе была ўжо збудаваная, – гэта цяперашні касцёл Перамянення Пана ў Германавічах. У той час святыня мела тытул Апекі Прасвятой Багародзіцы і была асвечана 6 кастрычніка 1787 года. Якраз гэты дзень і прынята лічыць за дату заснавання германавіцкага касцёла. Аднак мала хто ведае, што гісторыя парафіі як мінімум на паўтара стагоддзя даўжэйшая.

У 1793 годзе Германавічы трапляюць пад уладу Расійскай імперыі. Ігнацы Шырын у 1796 годзе піша тэстамент, у якім просіць дзяцей пахаваць яго пад царквой у Германавічах, а таксама дабудаваць базыльянскі кляштар, а калі б гэтага не атрымалася, то зрабіць там кляштар для якога-небудзь лацінскага ордэна. Двухпавярховы мураваны будынак кляштара ўзводзіўся злева ад царквы. Акрамя таго, побач са святыняй былі збудаваныя аптэка, дом арганіста і прытулак для старых. Ігнацы памірае 10 жніўня 1796 года. Германавічы дастаюцца ягонаму сыну Юзафу. Той дабудоўвае або заканчвае будаваць двухпавярховы мураваны палац, які захаваўся да нашых дзён.

**Якраз у часы Юзафа Шырына, паміж 1800 і 1805 гадамі, германавіцкая царква была ператвораная ў рыма-каталіцкі касцёл, які пры гэтым атрымлівае тытул Перамянення Пана, што мела і першая святыня.**

Вернікі сталі ўдзельнічаць у рыма-каталіцкіх набажэнствах, а афіцыйна Германавіцкая парафія была створаная 27 жніўня 1821 года з частак Пагосцкай, Задарожскай і Дзісенскай парафій. Чаму так адбылося? Для таго часу, канца XVIII і пачатку XIX стагоддзяў, было даволі частай з'явай на Паазер'і, што магнаты, которыя з'яўляліся фундатарамі грэка-каталіцкіх парафій, пераводзілі іх у рыма-каталіцтва. З аднаго боку, гэта было праяўленнем магнацкай самаволі, калі багатыя і ўплывовыя асобы вырашалі, у якім абрадзе і на якой мове мусяць маліцца іх падданыя сяляне. З іншага – улічвалася небяспека таго, што расійскія ўлады могуць прымусова перавесці грэка-каталікоў у праваслаўе. Так у той перыяд не толькі ў Германавічах, але ў Дзеркаўшчыне, Мосары, Лучаі замест грэка-каталіцкіх парафій стварылі рыма-каталіцкія. Засцярога пра небяспеку пераводу ў праваслаўе і страты еднасці з Апостальскай Сталіцай аказалася слушнай. У 1839 годзе расійскія ўлады ліквідавалі Унію. Грэка-каталіцкіх вернікаў прымусова зрабілі праваслаўнымі і не дазвалялі перайсці ў рыма-каталіцтва тым, хто хацеў бы захаваць еднасць з Рымам.

Але вернікаў у Германавічах гэта не кранулася. Яны заставаліся ў Каталіцкім Касцёле.

Варта згадаць, што ў Германавічах была яшчэ адна рыма-каталіцкая святыня. У 1826 годзе ў правабярэжнай частцы паселішча (Новых Германавічах) Юстын Шырын збудаваў мураваную васьмікутную капліцу святых Пятра і Паўла. Гэта была прыватная капліца сям'і Шырынаў, дзе пахаваныя прадстаўнікі гэтага роду. Капліцу пашкодзіў пажар у 1896 годзе, пасля гэтага яна не рамантавалася. У 1924 годзе яе разабралі, а цэглу перадалі на патрэбы парафіі.

***Кастусь Шыталь***



Руіны капліцы святых Пятра і Паўла ў Германавічах. Фота пачатку XX стагоддзя.



Выгляд касцёла і плябаніі ў Германавічах па стане на 1810 год. Рэканструяваў паводле дакументаў у 1854 годзе германавіцкі пробашч кс. Канстанцін Лодзь.



Германавічы на малюнку Язэпа Драздовіча, 1917 год. На левы бок ад касцёла відаць руіны капліцы святых Пятра і Паўла.

# Украіна адмаўляецца ад пасярэдніцтва Ватыкана. Як да гэтага дайшло?

**Папа Рымскі Францішак актыўна заклікае да міру паміж Украінай і Расіяй, запусціў шэраг гуманітарных і міратворчых ініцыятываў. Але ва Украіне ўсё адно заяўляюць, што Ватыкан не можа быць пасярэднікам у вырашэнні канфлікту. Разбіраемся, якія заявы і дзеянні сталі нагодай для такіх рашэнняў.**

**Папа Францішак ад лютага 2022 года заклікае да спынення ўзброенага канфлікту паміж Расіяй і Украінай, пры гэтым прызнаючы правы Кіева на самаабарону.**

Ён ініцыяваў велікодныя замірэнні, якія тым не менш не былі рэалізаваныя. Звяртаўся да ўладаў Расіі з нагоды гуманітарных калідораў, але зноў не быў пачуты. З ягонай ініцыятывы кардынал Конрад Краеўскі рэгулярна дастаўляе гуманітарныя грузы ва Украіну, а кардынал Матэа Дзупі наведваў з міратворчай місіяй Кіеў, Маскву і Вашынгтон. У траўні 2023 года са Святым Айцом асабіста сустракаўся прэзідэнт Украіны Уладзімір Зяленскі, які прасіў яго дапамагчы з вяртаннем вывезеных у Расію ўкраінскіх дзяцей. Сам Пантыфік рэгулярна прымае ўкраінскіх грамадзянаў і іерархаў ды заклікае маліцца за "шматпакутны ўкраінскі народ".

"Пасярэдніцкая роля Апостальскай Сталіцы ў спыненні чалавечых пакутаў заслугоўвае высокай ацэнкі", – адзначаў 22 сакавіка 2022 года Зяленскі.

Аднак 8 верасня 2023 года дарадца кіраўніка офіса прэзідэнта Украіны Міхаіл Падаляк у інтэрв'ю ўкраінскім СМІ заявіў пра прарасійскасць Рымскага біскупа і выключыў магчымасць яго пасярэдніцтва ў магчымых будучых перамовах паміж Масквой і Кіевам.

"Няма сэнсу казаць пра пасярэдніка пад назвай Папа Рымскі, калі ён займае зусім відавочную ўжо для ўсіх прарасійскую пазіцыю. Гэта было не ў першы раз, але спачатку там неяк усё гэта міксавалася. Гэта значыць, рабілі выгляд, што мы гэтага не бачым, але сёння зразумела, што чалавек займае прарасійскую пазіцыю. І, адпаведна, гэта вельмі негатыўна адбіваецца на вайне", – заявіў Падаляк.

Паводле яго, "ніякай пасярэдніцкай функцыі ў Ватыкана быць не можа, бо гэта будзе функцыя, якая падмане Украіну або справядлівасць".

Што ж стала нагодай для такіх заяваў і змены афіцыйнай рыторыкі ўкраінскіх уладаў?

### Супольны крыж

Упершыню даволі істотнае непаразуменне ў стасунках Ватыкана і Украіны здарылася ў красавіку 2022 года. Тады крытыку ўкраінскай грамадскасці і ўладаў выклікала ініцыятыва запрасіць на крыжовую дарогу ў Вялікую пятніцу ў Рыме дзвюх жанчын з Украіны і Расіі, што працуюць у хоспісе ў Італіі. Ідэя заключалася ў тым, каб паказаць, што дзве краіны могуць жыць у міры гэтак жа, як жывуць яны.

Але ва Украіне такі пасыл выклікаў крытыку, бо там чакалі ад Ватыкана асуджэння Расіі, а не ўраўнавання двух варожых бакоў.

"Амбасада Украіны пры Ватыкане разумее і падзяляе агульную занепакоенасць украінскай і многіх іншых супольнасцяў з-за ідэі сабраць разам украінскую і расійскую жанчын, каб несці Крыж падчас пятнічнай Крыжовай Дарогі ў Калізеі", – заявіў украінскі амбасадар Андрэй Юраш.

### Спачуванне – прычына крытыкі

Новая хваля крытыкі закранула Пантыфіка ў жніўні мінулага года. Тады, падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, ён, з аднаго боку, маліўся за мір для "ўмілаванага ўкраінскага народа", а з іншага заявіў: "Я думаю пра тую бедную дзяўчыну, узарваную бомбай, падкладзенай пад сядзенне яе машыны ў Маскве. Нявінныя плацяць за вайну, нявінныя!"

Мелася на ўвазе расійская журналістка і дачка вядомага філосафа-антызаходніка Дар'я Дугіна, аўтамабіль з якой падарваўся 20 жніўня. Сама жанчына актыўна падтрымлівала правядзенне расійскай вайсковай аперацыі ва Украіне і асабіста ездзіла на фронт у якасці вайсковага карэспандэнта.

"Сённяшні выступ Папы засмуціў і прымусіў задумацца пра многае: нельга гаварыць у адных катэгорыях пра агрэсара і ахвяру, гвалтаўніка і згвалтаванага. Як можна назваць аднаго з ідэолагаў імперыялізму нявіннай ахвярай?" – заявіў амбасадар Юраш.

А Міністэрства замежных спраў Украіны выклікала Апостальскага нунцыя арцыбіскупа Вісвалдаса Кулбокаса, адзначыўшы непаразуменне рашэння "Папы Францішка згадаць у кантэксце расійска-украінскай вайны смерць расійскай грамадзянкі на тэрыторыі Расіі, да якой Украіна не мае ніякага дачынення".

У выніку Ватыкан быў змушаны апраўдвацца. Як заявіў рэдакцыйны дырэктар Дыкастэрыі па справах камунікацыі Андрэа Тарніеллі, "Папа гаварыў з сэрцам пастыра" і хацеў "падкрэсліць, што нішто ніколі не можа апраўдаць забойства чалавека".

"Словы Святога Айца па гэтым драматычным пытанні павінны разглядацца як голас, узняты ў абарону чалавечага жыцця і звязаных з ім каштоўнасцей, а не як палітычная пазіцыя. Што датычыць шырокамаштабнай вайны ва Украіне, распачатай Расійскай Федэрацыяй, выступленні Святога Айца Францішка ясна і адназначна асуджаюць яе як маральна несправядлівую, непрымальную, варварскую, бессэнсоўную, агідную і святатацкую", – заяўлялася ў адмысловай заяве Святога Пасаду.

### "Вы – спадкаемцы вялікай Расіі"

Але праз год сітуацыя паўтарылася. 25 жніўня Папа Францішак падчас тэлемосту звярнуўся да расійскай каталіцкай моладзі, што сабралася ў Санкт-Пецярбурзе: "Вы – спадкаемцы вялікай Расіі: вялікай Расіі святых, кіраўнікоў, вялікай Расіі Пятра I, Кацярыны II, той імперыі – вялікай, асвечанай, [краіны] вялікай культуры і вялікай чалавечнасці. Ніколі не адмаўляйцеся ад гэтай спадчыны, вы – спадчыннікі вялікай Матухны Расіі, ідзіце наперад з гэтым".

Але гэтая заява са станоўчай згадкай Расійскай імперыі і ейных кіраўнікоў зноў выклікала крытыку ў бок Папы. "Вельмі сумна, што расійскія вялікадзяржаўныя ідэі, якія ўласна і з'яўляюцца прычынай хранічнай агрэсіўнасці Расіі, свядома ці неўсвядомлена выходзяць з вуснаў Папы Рымскага, місія якога, у нашым разуменні, складаецца менавіта ў тым, каб расплюшчыць вочы расійскай моладзі на дэструктыўны курс цяперашняга кіраўніцтва РФ", – падкрэсліў прэс-сакратар украінскага МЗС Алег Ніколенка.

Са сваімі каментарамі з гэтай нагоды выступілі і кіраўнікі ўкраінскіх католікаў. Гэтак, кіраўнік Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Святаслаў (Шаўчук) заявіў пра небяспеку таго, "што гэтыя словы могуць быць успрынятыя як падтрымка нацыяналізму і імперыялізму, якія сёння выклікалі вайну на Украіне – вайну, каторая кожны дзень нясе смерць і разбурэнне нашаму народу". А старшыня Канферэнцыі рыма-каталіцкіх біскупаў Віталь Скамароўскі быў перакананы, "што такія непаразуменні выкліканыя адсутнасцю адпаведнага дыялогу паміж Папам і Украінай як на царкоўным, так і на дыпламатычным узроўні. Спадзёмся, што рэакцыя ўкраінскага грамадства на згаданыя словы дапаможа выправіць сітуацыю цяпер і пазбегнуць непаразуменняў у будучыні".



І зноў Ватыкан быў змушаны апраўдвацца. У Апостальскай нунцыятуры ва Украіне адзначылі, што Папу не так зразумелі, і дадалі: ён "з'яўляецца рашучым праціўнікам і крытыкам любой формы імперыялізму ці каланіялізму ва ўсіх народах і сітуацыях".

**"Папа меў намер заахвоціць моладзь захоўваць і развіваць тое добрае, што ёсць у вялікай культурнай і духоўнай расійскай спадчыне, і, вядома, не ўсхваляць імперыялістычную логіку і ўладароў, згаданых для акрэслення пэўных гістарычных перыядаў", – сказаў афіцыйны прадстаўнік Святога Пасаду Матэа Бруні.**

Дый сам Папа заявіў 4 верасня, што дрэнна сфармуляваў свае думкі. Ён сказаў, што, гаворачы пра вялікую Расію, "меў на ўвазе не столькі геаграфію, колькі культуру", але абраў "не найлепшы спосаб выказаць гэта". "Я не думаў пра імперыялізм, калі казаў гэта", – сказаў Францішак.

Але такія чарговыя заявы Пантыфіка пакінулі свой след ва ўкраінскім грамадстве. 6 верасня падчас сустрэчы з Папам чальцы Сіноду біскупаў УГКЦ распавялі яму, што пэўныя выказванні і жэсты "Апостальскай Сталіцы і Вашай Святасці балючыя і цяжка ўспрымаюцца ўкраінскім народам, які ў гэтыя хвіліны цячэ крывёй у барацьбе за сваю годнасць і незалежнасць". Паводле біскупаў, "расійская прапаганда выкарыстоўвае "рускі свет" для апраўдання і падтрымкі забойчай ідэалогіі, таму вернікі нашай Царквы чуйна ўспрымаюць кожнае слова Вашай Святасці".

Папа зноў запэўніў іх у сваёй салідарнасці, "пастаяннай малітоўнай блізкасці" з украінскім народам. Аднак ва Украіне, падобна, гэтыя словы, прынамсі пакуль, не чуюць. Пра што і сведчаць апошнія заявы Падаляка пра "прарасійскасць" Папы.

Але не толькі Украіна адмаўляецца ад пасярэдніцтва Ватыкана. Не гатовыя да яго і ў Расіі. "Зараз не час", – гэтак, са словаў самога Пантыфіка, напісаў яму міністр замежных справаў РФ Сяргей Лаўроў у адказ на просьбу наведаць Маскву і сустрэцца з Уладзімірам Пуціным. Апошні, у адрозненне ад Зяленскага, таксама не захацеў сустракацца з папскім пасланнікам кардыналам Дзупі ў чэрвені гэтага года.

Праўда, і казаць пакуль пра пасярэдніцтва не выпадае, бо бакі яшчэ не гатовыя да перамоваў.

***Мечыслаў Гапановіч***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам дасталі: **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Вера Беганская** *(Жары)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Тамара Супко** *(Цешалава)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Аляксандр Шляга** *(Драгіchын)*, **Тэрэза Балтрамун** *(Бастуны)*, **Браніслава Шакель** *(Браслаў)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Генадзь Лаўцэвіч** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Цорах** *(Мілты)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Лілія Казлоўская** *(Пагошча)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Чэслаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Вераніка Васілеўская** *(Вялікае Абаб'е)*, **Люцыя Голуб** *(Дуброўшчына)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Чэслаў Клімовіч** *(Мядзел)*, **Святлана Зайцава** *(Свідно)*, **Ганна Гайдзель** *(Яя)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі)*, **Соф'я Рагіня** *(Сарокі)*, **Эмма Клепацкая** *(Сарокі)*, ***Бартко Валянцін*** *(Сарокі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# З памежнікаў – у манахі. Шчырая размова з айцом-марыянінам Іллёй Саўчанкам

**Маладога ды вясёлага святара айца Іллю ведаюць многія вернікі. Гэта і парафіяне касцёла Святога Юзафа ў Оршы, і шматлікія ўдзельнікі "Вінаградніка", курса "Закхей" ды іншых спатканняў, якія праходзяць у мясцовым рэкалекцыйным доме.**

Таксама айцец Ілля Саўчанка з'яўляецца кіраўніком пілігрымкі Друя – Росіца.

Сёння мы паразмаўляем з ім пра жыццёвы шлях, пакліканне да службы на ніве Пана, а таксама пра цяжкасці і радасці арганізатара пілігрымкі.

Мяне завуць айцец Ілля Саўчанка, я марыянін. Нарадзіўся ў Глыбокім і быў трэцім, самым малодшым сынам у сям'і. Мая мама каталічка, тата – праваслаўны.

**– Як распачалося Вашае рэлігійнае выхаванне?**

– З самага дзяцінства разам з мамай і братамі я хадзіў у касцёл. Асаблівы ўнёсак у маё рэлігійнае жыццё зрабіла бабуля. Яна была з Задарожскай парафіі. Там мае бацькі ўзялі шлюб, там прынялі хрост я і мае браты. Памятаю моманты, як мы маліліся там у касцёле на адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Я пытаўся: "Калі схаваюць сонейка?", бо добра ведаў, што калі схаваюць "сонейка", то мы пойдзем дадому.

Дарэчы, тады ў парафіі служыў ксёндз Люцыян Паўлік МІС. Атрымліваецца, што з самага дзяцінства ў маім жыцці прысутнічалі марыяне.

**– А якім было жыццё ў роднай Глыбоцкай парафіі?**

– Я магу сказаць, што там атрымаў сваё духоўнае выхаванне. У Глыбоцкую парафію мы хадзілі маліцца з мамай і братамі. Маючы 11-12 гадоў, я адчуў прагненне быць міністрантам. Мяне прынялі, і ад гэта часу распачалося маё служэнне блізка ля алтара. Тады ж з'явіліся першыя думкі пра святарства.

**– Ці мелі Вы прыклад святара, хто пасеяў зерні паклікання?**

– У тыя часы пробашчам у Глыбокім быў ксёндз Кшыштаф Мікалайчык (зараз ён служыць місіянерам у Цэнтральнай Афрыканскай Рэспубліцы). Я бачыў яго адданае служэнне кожнаму: дзецям, міністрантам, моладзі, старэйшым людзям. Памятаю, як разам хадзілі па калядзе, да хворых, на адпусты ў іншыя парафіі. Мяне захапляла гэтае служэнне. Мне таксама хацелася яго працягваць і ахвяраваць сябе іншым людзям.

**– Гэтае прагненне засталося і ў падлеткавым узросце?**

– Трэба сказаць, што гэта былі толькі першыя думкі. Я быў звычайным юнаком. У школе прымаў удзел у розных сцэнках, гуляў у складзе гарадской футбольнай каманды. Таксама любіў розныя маладзёвыя тусоўкі і дыскатэкі, але гэта не перашкаджала мне служыць ля алтара, паглыбляць духоўнае жыццё. Так з дня ў дзень зерне веры ў маім сэрцы ўрастала, а разам з ім – зерне паклікання.

Я памятаю момант, калі падчас сустрэчы міністрантаў у закрыстыю прыйшла наша парафіянка пані Гэлена. Яна прынесла вялікую фігуру Маці Божай і папрасіла святара, які праводзіў сустрэчу, дапамагчы адвезці на машыне дадому. Ксёндз згадзіўся, спатканне скончылася, мы разам селі ў машыну, бо жылі ў адным мікраараёне.

Калі прыехалі да пані Гэлены, то хацелі дапамагчы занесці фігуру ў хату. Але яна сказала: "Гэта Маці Божая для Іллі". Для мяне гэта быў шок, бо тую бабулю я нават не ведаў асабіста, проста бачыў у касцёле.

Памятаю, як прынёс фігуру ў хату. Мама гатавала вячэру, выйшла з кухні і здзіўлена спыталася: "А што гэта такое?" Я адказаў: "Гэта Марыя". Фігура Багародзіцы знаходзіцца ў маім бацькоўскім доме па сённяшні дзень.

З перспектывы часу, я бачу, што гэта былі першыя знакі, каб служыць у марыянаў.

**– А на той момант Вы таксама расчыталі знак да служэння ў марыянскай супольнасці?**

– Я не збіраўся ні ў які закон, хацеў быць дыяцэзіяльным святаром. Мяне захаплялі прыклад пробашча, а таксама чорная сутана. Я не хацеў насіць ніякай іншай вопраткі. Пасля выпускнога хацеў паступаць у семінарыю ў Тарнаў. Туды, дзе вучыўся наш ксёндз Кшыштаф. З гэтай інтэнцыяй я пайшоў у пілігрымку ў Будслаў.

Углядаючыся ў ікону Маці Божай, прасіў аб умацаванні паклікання. Калі выходзіў са святыні, затрымаўся каля канфесіяналу. Святар, каторы там сядзеў, раптам працягнуў мне маленькі абразік Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Я паглядзеў на яго і заўважыў літары РМ. Тады палічыў, што гэта знак майго паклікання да марыянаў. Праўда, потым ксёндз Кшыштаф патлумачыў, што абразік гэты айцоўрэдамтарыстаў, але для мяне ж гэта былі марыяне.

З той жа інтэнцыяй я пайшоў у Росіцу. Ранкам, пасля малітвы перад абразом бласлаўлёных мучанікаў, падышоў да айца-правінцыяла і папрасіў прыняць мяне ў ордэн айцоў-марыянаў. І ўжо ў верасні распачаў пастулат у ордэне.

Чаму менавіта да марыянаў? Бо мяне натхніў вельмі глыбокі досвед і прыклад сапраўднага святарства бласлаўлёных Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча. Тых, што аддалі жыццё за сваіх авечак, хоць маглі яго захаваць. Ну і яшчэ марыяне носяць чорную сутану.

**– Якім быў шлях фармацыі ў ордэне?**

– Няпростым і цярністым. У пастулаце я адбыў усяго паўгода. Бо там распазнаў, што маю пакліканне да сямейнага жыцця, каб у свеце, у сужэнстве несці добрую навіну людзям.

Я ўцёк з пастулату ў красавіку, знайшоў працу, потым паступіў у політэхнічны каледж у Віцебску. Там падчас вучобы вёў актыўнае, цікавае жыццё: займаўся танцамі, спортам. Пры гэтым заўсёды адчуваў голас Бога. Бог даваў мне знакі: маё месца ў супольнасці. Але гэты голас я заглушаў, а знакі імкнуўся не заўважаць.

**– А якія абставіны дапамаглі ўсё ж адгукнуцца на Божы голас?**

– Я вырашыў даць сабе час для роздуму. І пайшоў на паўтара года ў армію. Гэтыя паўтара года я не лічу змарнаванымі. Падчас службы ў войску Пан Бог неадначы прамаўляў да мяне, адкрываў вочы сэрца.

Цікавыя рэчы адбываліся ад пачатку. Мяне прызвалі ў памежную службу. Былі чатыры заставы, куды я мог патрапіць: Фарынава, Асвея, Бігосава і Плюсы. Я хацеў служыць у Плюсах, каб потым застацца працаваць на мытні, нават папрасіў бацькоў дамовіцца са знаёмымі. Яны дамовіліся, і я прыйшоў на размеркаванне, упэўнены, што еду ў Плюсы. Але атрымаў размеркаванне ў Бігосава. Я быў сапраўды ў шокавым стане і не разумеў, як так атрымалася. Зразумеў адно: у Бога на мяне іншыя планы. Ён зноў вяртаў мяне да марыянаў.

Пачалося звычайнае армейскае жыццё. Час войска стаў для мяне перыядам роздуму і малітвы. Маліўся я падчас дзяжурства, чытаў Біблію, разважаў над Божым словам.

Аднойчы ў вайскоўцаў была сустрэча з праваслаўным святаром. Бацюшка папрасіў падняць рукі, хто праваслаўны, хто католік, а хто абыякавы. Аказалася, што сярод нас – 3-4 католікі, некалькі праваслаўных, а астатнія вера "па барабане". Я зразумеў, што гэта Бог кажа мне: "Паглядзі, якое вялікае жніво і як жа мала на ім работнікаў".

Пасля дэмбелю я зноў пайшоў у пілігрымку. Гэтая пілігрымка зноў скончылася тым, што мяне прынялі ў ордэн айцоў-марыянаў. І ўжо другі раз восенню я паехаў у пастулат. Гэта быў ужо мой свядомы выбар. Дакладна ведаў, што Бог мяне паклікаў і Ён мяне вядзе.

**– Больш крызісаў не было?**

– Былі вельмі глыбокі і балючы. Мой тата хварэў на анкалогію, у пастулаце я даведаўся, што яго стан пагаршаецца. Лекары казалі, што засталіся два месяцы жыцця. Пачуўшы пра гэта, я пайшоў на адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту. Там я задаваў Пану Богу вельмі шмат пытанняў: "Навошта я прысвячаў Табе жыццё? Навошта Ты забіраеш майго тату? А каго потым Ты ў мяне забярэш? Мяне, ці некага яшчэ?..."



На той адарацыі я адчуў, быццам цёплы дождж напаўняе маё цела, а ў сэрцы гучалі словы: "Так, Я забіраю твайго тату. Але цяпер тваім татам буду Я".

Далей было самае цяжкае Божае Нараджэнне ў нашай сям'і. Мы віншавалі адно аднаго, жадалі здароўя, а я ўсведамляў, што ў таты здароўя няма і ўжо не будзе, што мы бачымся апошні раз на гэтым свеце.

Праз два тыдні майго таты не стала. Я ехаў на пахаванне з вялікім бунтам на Пана Бога. Я не хацеў вяртацца ў закон, не хацеў вяртацца ў Касцёл. Не хацеў ніякіх адносінаў з Богам, Каторы забірае родных. Я не мог такога прыняць.

Прыехаў дамоў, сядзеў ля труны таты, раптам мама мне сказала, што ён пакінуў мне падарунак. Гэтым падарункам стала Біблія. У Бібліі тата за тры дні да смерці напісаў "Молюсь за тебя, как умею. Желаю, чтобы ты выдержал на своём пути. Папа". Гэта Біблія са мной па сённяшні дзень. Ведаю, тады сам Бог узяў маю веру і мае з Ім адносіны ў свае рукі. Быццам травінку, якая хістаецца на ветры, Ён падышоў і агарнуў мяне сваімі рукамі. Гэта Бог сам дае мне Святое Пісанне і кажа: "Тут адшукаеш адказы на свае пытанні, з Маім Словам знойдзеш супакой, з Ім будзеш радавацца, сумаваць і плакаць". Так Пан умацаваў маю веру і сам выратаваў мае адносіны з Ім.

Я вярнуўся ў семінарыю, дзе прадоўжыў сем гадоў сваёй фармацыі, перажываючы розныя прыемныя і складаныя моманты жыцця. Святаром я стаў 23 мая 2020 года.

Такім быў мой шлях. І за яго я вельмі ўдзячны Богу. Нягледзячы на ўсе мае перажыванні і крызісы, Бог ніколі мяне не пакінуў, вёў кожны дзень на працягу ўсяго жыцця і трымаў за руку.

**– Ці памятаеце Вы сваю першую пілігрымку ў Росіцу? Якой яна была?**

– Шчыра кажучы, не вельмі. Хіба што мне было 10-12 гадоў, хутчэй за ўсё, гэта была пілігрымка з Полацка ў Росіцу, хадзіў я туды з мамай. Але я добра памятаю сваю першую пілігрымку ў якасці арганізатара. Я быў яшчэ дыяканам, і разам з айцом Канстанцінам Гушчам МІС мы прывялі з Друі ў Росіцу групу каля 90 чалавек.

**– Чаму Вас як арганізатара захапляе пілігрымка менавіта з Друі?**

– Друю можна назваць калыскай айцоў-марыянаў у Беларусі. Гэта месца нашай першай парафіі. Адтуль пачалася місія айца Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча ў Росіцу. Таму і мы ідзём гэтым шляхам, як і святары 80 гадоў таму.

**– Ці адрозніваецца стан простага пілігрыма ад стану святара-арганізатара?**

– Канешне, адрозніваецца. Калі ты просты пілігрым, то ідзеш сабе і ідзеш. Сказалі спыніцца – спыніўся , сказалі ісці – пайшоў, сказалі памаліцца – дастаў ружанец, прыйшоў на начлег – паваліўся і заснуў. Усё проста.

Калі ты арганізатар, то на тваю галаву кладуцца пытанні: дзе зрабіць прыпынак, колькі ён павінен трываць, каб не спазніцца на месца начлегу? Калі памаліцца, калі спяваць, як захаваць атмасферу пілігрымкі? І яшчэ шмат арганізацыйных пытанняў кладзецца на тваю галаву.

Быў у першай пілігрымцы складаны выпадак. Падыходзячы да Верхнядзвінска, нашая калона расцягнулася недзе на паўтара кіламетра. Айцец Канстанцін у гэты час спавядаў, а я ўсвядоміў, што не маю ўжо сілаў ані сварыцца, ані падганяць. Тады падумаў: "Ай, ну і хай ідуць як ідуць. Але я больш ніколі не паведу пілігрымаў, бо гэта занадта складанае для мяне заданне". Тады маладыя людзі казалі, што не бачылі мяне дагэтуль такім сур'ёзным і паважным.

**– Але потым зноў сталі арганізатарам?**

– Давялося, але другі і трэці разы ўжо было прасцейшыя, адчуваў сябе больш упэўнена, дапамагалі іншыя святары.

**– Ці ўдаецца арганізатару пілігрымкі памаліцца?**

– Бывае па-рознаму. Бо ў галаве вельмі шмат арганізацыйных пытанняў і спраў. Але разумею, што гэты клопат пра пілігрымаў таксама з'яўляецца малітвай. Часам я наўмысна адыходзіў у канец калоны – памаліцца, паразважаць, пабыць каб

⇒



⇐ сам-насам з Богам. Але потым усведамляю: трэба распачаць ружанец, трэба памаліцца Крыжовы шлях, завесці людзей на прыпынак і так па коле.

**– Ці ёсць рэчы, якія могуць засмуціць Вас як арганізатара пілігрымкі?**

Такіх момантаў даволі шмат, але я стараюся зберагаць сабе добры настрой і нервовую сістэму. Напрыклад, калі была спёка, усе хочуць піць. А мы не разлічылі колькасць вады, чакаем гэтую ваду. Або пілігрымы прыйшлі на прыпынак, селі, а потым не хочуць уставаць. Трэба ісці, матываваць, пераконваць, тлумачыць, што трэба ўставаць, трэба ісці. Ну хтосьці ж павінен выконваць гэтую функцыю…

Засмучае, калі бачу, што людзі ідуць, як у паход: не моляцца самі, не слухаюць канферэнцый, размаўляюць, перашкаджаюць іншым. Такія выпадкі рэдка, але здараюцца. Я стараюся глядзець на падобныя сітуацыі ўсё ж пазітыўна. Бо чалавек пераадольвае шлях і, магчыма, на гэтым шляху ў яго сэрцы прарасце зерне веры.

**– Якія моманты найбольш кранаюць у пілігрымцы?**

Мяне заўсёды кранае людское змаганне. Захапляе, калі бачу змучаных пілігрымаў, з мазалямі… Часам тыя мазалі і боль такія, што яны ідуць са сціснутымі кулакамі, пераадольваючы сябе, але ідуць. Захапляе, калі бачу простую чалавечую падтрымку, узаемадапамогу, салідарнасць.

Але найбольш кранальны момант – уваход у Росіцкую святыню. Усе мы кладзёмся крыжам, і наступае час малітоўнай цішыні. Побач хтосьці плача, хтосьці цяжка дыхае, а потым я ўстаю з халоднай падлогі, гляджу на змучаныя і шчаслівыя твары пілігрымаў, задаю сабе пытанне: "А ці варта было?" і адказваю: "Варта!"

**– Пілігрымка Друя – Росіца мае сваю адметнасць. Памятаю, як яна пачыналася на пачатку 2000-х і большую частку ўдзельнікаў складала моладзь 16+. Прайшло амаль 20 гадоў, а ўзрост удзельнікаў не змяніўся. Як думаеце, чаму пілігрымка да сёння маладая?**

– Я не маю адказу на гэтае пытанне. Але мяне радуе, што падлеткі любяць менавіта гэтую пілігрымку – з Друі ў Росіцу. Ведаю, што гэтую моладзь захапляе прыклад росіцкіх пакутнікаў. Хачу заўважыць, што сучасны свет прапануе маладым людзям розныя магчымасці, і іх нашмат больш, чым дваццаць гадоў назад. Але яны маюць прагу прысутнасці Бога, голад па Божым слове, шукаюць Бога і будуюць з Ім жывыя адносіны. Гэтая пілігрымка сведчыць, што Касцёл у Беларусі малады і мае будучыню. І я веру ў тое, што пілігрымка Друя – Росіца і надалей будзе збіраць маладых людзей. А бласлаёвеныя пакутнікі і надалей будуць для іх прыкладам сапраўднага ахвярнага служэння, сапраўднай мужнасці і вернасці Хрысту, нават цаной аддання свайго жыцця.

**– Росіца – месца пакутніцкай смерці людзей. А настрой пілігрымкі досыць вясёлы. Як думаеце, ці стасуецца адно з другім? Ці не ўзнікала думкі зрабіць больш сур'ёзную па фармаце пілігрымку?**

– Вядома, Росіца – месца трагедыі, дзе святары разам з людзьмі згарэлі ў агні. Але ж гэта не толькі месца трагедыі, але і месца нараджэння для Неба. Месца, дзе жыццё перамагае смерць, а радасць вечная перамагае зямны смутак.

Я не лічу, што вясёлы настрой перашкаджае. Пераканаты, што тут няма супярэчнасцяў. Тым больш, што ў пілігрымцы шмат часу на малітву, канферэнцыі, цішыню, дзе кожны можа затрымацца і задумацца над сваім жыццём. Але таксама ёсць час на радасць і весялосць. Бо быць каталікам – гэта не значыць быць смутным. Вернік – гэта чалавек, які мае радасць сустрэчы з Хрыстом і бліжнім.

Ці думаю я змяняць фармат? Не. Каб змяніць фармат, трэба змяніць кіраўніка (*усміхаецца*). Менавіта такі фармат мне адпавядае. І, як бачна, адпавядае ўдзельнікам пілігрымкі. Як будзе далей – час пакажа. Веру, што такая пілігрымка служыць нашаму духоўнаму ўзрастанню і яна на Божую хвалу.

*Размаўляла*
***Вікторыя Філіпенка***

# Сустрэча ўдзельнікаў апостальскага руху "Маргарытка" Віцебскай дыяцэзіі

**8 верасня ў свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ўдзельнікі апостальскага руху "Маргарытка" з Віцебскай дыяцэзіі сустрэліся ў касцёле Беззаганнага Зачацця НПМ у Удзеле.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Найлепшыя падарункі для Панны Марыі – удзел у святой Імшы і ружанцовая малітва. Таму ўдзельнікі сустрэчы пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце памаліліся Ружанец у інтэнцыі свецкіх апосталаў і духоўных асобаў, якіх яны падтрымліваюць малітвамі. Таксама вернікі прысвяцілі Беззаганнаму Сэрцу Марыі сябе, сем'і, свае парафіі, месцы працы.

Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Разам з ім маліліся а. Яраслаў Банасяк OFMConv, кс. Сяргей Сурыновіч. Гамілію прамовіў біскуп Алег Буткевіч, які падкрэсліў, наколькі важная роля адведзена Марыі ў ажыццяўленні Божага плану збаўлення чалавецтва. Іерарх заахвоціў удзельнікаў "Маргарытак" наследаваць жыццё Панны Марыі, наследаваць Яе цноты: вытрымку ў малітве, слуханне і захаванне ў сэрцы Божага слова, паслухмянасць Божай волі. Пакора – вельмі нялёгкая дабрадзейнасць, бо мы схільныя да помсты. Езус вучыць нас любіць ворагаў, шанаваць кожнае Божае стварэнне. Мы абавязаныя абараняць людскую годнасць, бо чалавек – святыня Духа Святога. А Пан Бог справядлівы, таму мы аддаём усе справы на волю Бога. Таксама неабходна быць удзячнымі Пану Богу за ўсе дары, якія мы атрымліваем ад Яго. Варта памятаць, што Бог не дае выпрабаванняў больш, чым мы можам знесці, і што маем Заступніцу – Найсвяцейшую Панну Марыю.

Пасля абеду ўдзельнікам сустрэчы была прапанавана канферэнцыя "Этапы ажыццяўлення плану збаўлення на шляху сінадальнасці", якую падрыхтаваў кс. Сяргей Сурыновіч. Папа Францішак навучае, што "сінадальны шлях – гэта той шлях, якога Бог чакае ад Касцёла ў трэцім тысячагоддзі". Святар зазначыў: "Ідучы за заклікам Святога Айца, важна, каб кожны вернік, кожны ахрышчаны адчуў адказнасць за лёс Хрыстовага Касцёла і яго збаўчай місіі ў свеце. Галоўнай задачай Касцёла на сучасным этапе яго развіцця з'яўляецца новая евангелізацыя. У ёй павінны браць удзел не толькі біскупы, святары, кансэкраваныя асобы, але і свецкія вернікі. Няхай дзякуючы нашым малітвам за духоўных асобаў і актыўнаму ўдзелу ў жыцці Касцёла праз камунію, удзел і місію сучасны Касцёл стане Вячэрнікам новага Спаслання Святога Духа і прывядзе да яго сінадальнага адраджэння"!



# "Езу, у сэрцы Ты маім": VII Парафіяда для дзяцей і моладзі прайшла ў Дзеркаўшчыне

**Удзел у Парафіядзе, якая адбылася 26 жніўня, прынялі чатыры парафіі: з Віцебска (св. Антонія з Падуі), Лынтупаў (св. Апостала Андрэя), Дзеркаўшчыны (Унебаўшэсця Хрыста) і Канстанцінава (Святой Тройцы).**

■ **Марыя Іваноўская і Марыя Грыцкевіч**, *тэкст;*
**Марыя Пялінак**, *фота*

Пасля рэгістрацыі ўдзельнікаў чакала ўрачыстае адкрыццё, якое распачалося святой Імшой. Да моладзі з канферэнцыяй звярнуўся кл. Антон Тышко, які паразважаў пра тое, што кожны, маючы ў сваім сэрцы Езуса, мусіць дзяліцца Ім з іншымі.

Парафіяда – гэта фармацыя дзяцей і моладзі паводле трыяды: стадыён – тэатр – святыня. Таму падчас спаборніцтваў каманды ўдзельнічалі ў спартыўных і музычным конкурсах, прадставілі сваю візітку, а таксама адбыўся конкурс ведаў па Бібліі і гісторыі Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.

У гэтым годзе Парафіяда праходзіла адзін дзень, але ён быў вельмі насычаным. Спаборніцтвы пачаліся з конкурсу візітных картак, дзе мы змаглі пазнаёміцца бліжэй з парафіямі ўдзельнікаў. Потым адбыўся конкурс песні, тэмай якога быў сам дэвіз Парафіяды "Езу, у сэрцы Ты маім".




Наступным быў біблійны конкурс па кнізе Ёны і гісторыі Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Затым пачаліся спартыўныя спаборніцтвы (пляжны валейбол, настольны тэніс, футбол), якія паказалі, што кожная каманда вельмі моцная.

Нягледзячы на шчыльны расклад, удзельнікі мелі магчымасць пазнаёміцца і знайсці новых сяброў. Таму што Парафіяда – гэта не толькі месца спаборніцтваў, але і месца сяброўства і цеплыні.

Пасля смачнай вячэры свае ўзнагароды і памятныя падарункі з рук ксяндза-каноніка Валерыя Орсіка і арганізатараў атрымалі прызёры Парафіяды. Першае месца заняла парафія Унебаўшэсця Хрыста (Дзеркаўшчына), другое – парафія святога Антонія з Падуі (Віцебск), а трэцяе – парафія святога Андрэя Апостала (Лынтупы).

Закончылася мерапрыемства адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманта, падчас якой моладзь дзякавала Богу за добра праведзены час, які, несумненна, узбагаціў іх фізічна і духоўна, а таксама паспрыяў новым знаёмствам.

# “Міласць”: рэвалюцыя ў беларускай хрысціянскай музыцы

**Гурт “Міласць” карыстаўся папулярнасцю сярод каталіцкай аўдыторыі ў 90-ых і нулявых. Музыкі давалі да дзесяці канцэртаў у год, выступалі на фэстах усебеларускага маштабу і парафіяльных адпустах. Акрамя гэтага, ігралі ў пілігрымках, на рэкалекцыях і прыміцыях. Іх драйвовая музыка стала нібы саўндтрэкам да адраджэння Касцёла ў Беларусі. Пра культавасць гурта размаўляем з былым удзельнікам “залатога складу” Андрэем Юралевічам і яго пераемнікам Аляксандрам Ардзюком.**

### “Стук-стук-стукам…”, Ці прабіўшыся да сэрцаў вернікаў

Першы ўзгадвае мінулае з, падаецца, недарэчнай сціпласцю: *“Мы разумелі, што нас, магчыма, успрымалі як добры гурт… Аднак перадусім хацелася, каб нашая справа падабалася Богу. Мы ж і пачыналі проста як хлопцы, што прагнулі спяваць падчас св. Імшы. Пасля ўжо марылі прыўнесці штосьці новае ў беларускую хрысціянскую музыку”.*

Маладзёны сталі першым каталіцкім гуртом у краіне, які выкарыстоўваў барабаны. Праўда, на інструменце гралі збольшага па-за межамі святыні, бо ён вельмі гучны і, здаралася, недарэчна спалучаўся з касцельнай акустыкай.

*“Перад вачыма канцэрт у Доме культуры на Дні моладзі ў Лідзе. Хлопцаў і дзяўчат сабралася ажно 800 чалавек – зала хадзіла ходуном,* – адзначае мужчына. – *Дагэтуль маладыя вернікі чулі толькі ціхую ігру на гітары, а нам хацелася даць чагосьці больш рашучага, больш набліжанага да року! Гэта і стала чымсьці новым. Магчыма, камусьці рэзала вуха, але, мне падаецца, маладым сэрцам заходзіла добра!”*

*“Я памятаю яшчэ тыя часы, калі бабулі скардзіліся, што ў касцёле граюць на гітары. “Міласць” вывела музыку на той узровень, калі і барабаны ў святыні можна было паставіць, і бабулі пры гэтым былі задаволеныя”,* – дадае Аляксандр.

Мужчына лічыць, што гурт спрыяў пазітыўным пераменам у Касцёле, памяншаючы кансерватыўнасць на карысць адкрытасці. Вернікам паказалі, што не толькі арган можа быць арганічным у храме, але і іншыя інструменты. Касцельныя песні, “якія сто гадоў іграліся аднолькава”, загучалі па-новаму, стылёва. Слухачоў захаплялі ўжо не толькі тэксты, але і музыка. *“На той момант мне падавалася, што ў нас увогуле самы круты стыль у Беларусі”,* – падкрэслівае Аляксандр.

Разам з тым Андрэй адзначае, што асновай творчасці і галоўным пасылам музыкаў заўсёды была Божая любоў: *“А жанр, выбар якога сыходзіў з нашых пальмяных душаў, стаў абалонкай для Слова”.*

Жывая падача песень дапамагала лёгка усталёўваць кантакт з аўдыторыяй. Яку сапраўднага прафесійнага бойс-бэнда, у хлопцаў з’явіліся “фанаты”, якія чакалі іх пасля канцэртаў, каб аддзячыць, перагаварыць. *“Асабліва дзяўчаты падыходзілі, любілі якую цацку падарыць”,* – узгадвае з усмешкай Андрэй.

*“Аднойчы знаёмая з парафіі папрасіла нас пайграць на вяселлі,* – дапаўняе Аляксандр. – *З-за няведання, як там “адпрацоўваюць”, мы гралі з пятай вечара да другой ночы – пальцы былі скрозь у крывавых мазалях. Усе песні праспявалі, што ведалі, бо свецкія асабліва не гралі. Гасцям моцна спадабалася – крычалі, візіткі прасілі. А мы ім у адказ, што па вяселлях не ездзім, што мы касцельны гурт!”*


Аляксандр Ардзюк


Андрэй Юралевіч


Віталій Мікуліч, Андрэй Юралевіч, Міхаіл Касцюкевіч, Дзмітрый Красса. Адзін са складаў "Міласці" (злева направа)

### Прадзюсар

Бацькам ідэі і духоўным настаўнікам “Міласці” быў кс. Юзаф Багдзевіч. Ён браў на сябе выдаткі, дапамагаў вырашаць бытавыя клопаты, дамаўляўся наконт выступаў. *“Мы любілі гэтага святара як чалавека, а яму была даспадобы нашая справа. Мне падаецца, у ім да сёння не згасла іскра маладосці”,* – дзеліцца Андрэй.

*“Памятаю, калі ён ужо быў пробашчам у новай парафіі, запрасіў нас да сябе выступіць на касцельным свяце. Мы прыехалі, расставіліся – а там бабуляў з дзесяць чалавек. Зайгралі для іх крыху, а пасля сёстры накармілі нас так, нібы мы тыдзень выступалі. Мілы жэст быў з боку кс. Юзафа”,* – узгадвае Аляксандр.

### “Нам было радасна ад таго, што робім”

Гурт “Міласць” запісаў тры альбомы: “Тебе дан шанс, человек”, “Да Маці Божай” і “Ключи”. Першы і апошні запісвалі ў гукастудыі кс. Яна Глінкі ў Баранавічах. Другі – амаль на каленках, у вельмі дамашніх умовах у Лідзе. Удзельнікі гурта на той час жылі ўжо ў розных гарадах, таму, акрамя творчых высілкаў, праца патрабавала шмат каардынацыі і шчыльнага графіку. Некаторыя рэчы запісвалі днём, некаторыя – уначы.

*“Кожны меў сваё дарослае жыццё. Каб зладзіць канцэрт, трэба было сабрацца ўсім на рэпетыцыі – каму з Гродна, каму з Мінска, з Польшчы даехаць. А калі праца па 12 гадзін і графік 2 праз 2, то бывала вельмі энергазатратна. У апошнія гады існавала праблема і з рэпетыцыйнай базай. Дык мы з Андрэем прыдумалі арганізаваць студыю на гарышчы ягонай хаты. Пазаносілі ўсё туды… Складана, калі музыка не прыносіць фінансавай стабільнасці. Хаця мы ніколі і не гналіся за грашыма”,* – распавядае Аляксандр.

Касеты і дыскі з запісамі гурт рэалізоўваў за сімвалічную плату. Грошы часцей за ўсё ішлі на даезд. Усё астатняе з уласнай ініцыятывы дзеля добрай ідэі. У завяршэнні дзейнасці гурта нават фінансавыя сродкі з распраданай апаратуры пайшлі на будаўніцтва новага касцёла ў Лідзе.

### “Гэта мая душа”

Аляксандр прызнаецца, што з юнацтва глядзеў на гурт як на сваіх куміраў. “Міласць” натхніла яго самастойна авалодаць гітарай, бо хацеў іграць, як яны.

*“Памятаю канцэрт арыгінальнага складу падчас фэсту ў Будславе. Для іх прывезлі прычэп ад трактара, і хлопцы выступалі на ім, як на сцэне,* – узгадвае мужчына. – *Прычэп так і застаўся там пасля ўрачыстасцяў. І мы ўжо новым складам “Міласці” ізноў гралі на ім праз некалькі гадоў. Мяне тады ахапіла такая настальгія… Калісьці я ўзіраўся ў тую сцэну як пілігрым, а цяпер сам на ёй стаяў…”*

*“Каб зусім папулярнасць – не, такога не было,* – з той жа сціпласцю падсумоўвае Андрэй. – *Але ў маім жыцці застаўся вязлівы след”.*

***Кс. кан. Уладзімір Гуляй, пробашч Лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа, адзін з духоўных апекуноў гурта:***

– У той час з’яўляліся розныя спосабы евангелізацыі, і каталіцкі гурт не быў чымсьці новым. Кожны хрысціянін выбірае, як рэалізаваць сваё пакліканне. Што я заўважыў у хлопцаў з “Міласці”, дык гэта ідэйнасць, хоць мне і не падабаецца само слова. Яны сапраўды былі папулярнымі, але пры гэтым не шукалі сябе. Музыкі шукалі славы Божай. Іх музыка, песні, былі прасякнутыя любоўю да Хрыста і Марыі, жаданнем абвяшчаць Слова. Памятаю, хлопцы прыходзілі на плябанію і пачыналі кожную рэпетыцыю з малітвы. Ды ўвогуле ўся іх рэпетыцыя была малітвай.

Я дапамагаў “Міласці” чым мог, бо мне не была чужая гэтая дзейнасць – я стаяў ля вытокаў “Авэ”. Але адна справа, калі каталіцкі гурт ладзяць семінарысты, і іншая – калі свецкія хлопцы, якія маюць шмат уласных справаў. Праз іх сапраўды дзейнічаў Святы Дух. На канцэртах яны стваралі феерычную атмасферу. Андрэй Юралевіч умеў завесці гледачоў. Андрэй Змітровіч падкупляў таямнічасцю паэта, стрыманасцю, за якой хаваліся думы пра веру і жыццё. А непаўторны музычны стыль гурта стаў узбагачэннем мясцовага Касцёла.

Справа “Міласці” жыве і сёння, іх песні спяваюць у пілігрымках, падчас набажэнстваў, на фэстах.

***Заўвага:***

Гурт “Міласць” узнік у 1997 годзе пры Лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Ліда-Фара). Да 2003 года ён выступаў у “залатым складзе” з Андрэем (вакал, гітара) і Іванам (сола-гітара, вакал) Змітровічамі, Андрэем Юралевічам (вакал, клавішныя), Віталем Мікулічам (бас-гітара), Міхаілам Касцюкевічам (бас-гітара) і Дзмітрыем Красам (барабаны). Пасля ўдзельнікі часта змяняліся, дзейнасць перапынялася. У 2006 годзе гурт аднавілі ў тым ліку Аляксандр Ардзюк (гітара) і Андрэй Юралевіч – “Міласць” праіснавала да 2020 года. На дадзены момант значная частка ўдзельнікаў знаходзіцца за мяжой.

Гурт “Міласць” выказвае падзяку Богу за атрыманыя ласкі, кс. кан. Юзафу Багдзевічу – за заснаванне і развіццё гурта, кс. кан Уладзіміру Гуляю – за падтрымку і ўсім слухачам – за высокую ацэнку іх творчасці.

***Ангеліна Марцішэўская***



Вокладкі для альбомаў таксама распрацоўвалі ўдзельнікі гурта

# Свята Узвышэння Святога Крыжа. Тэст

**У верасні Касцёл адзначае свята Узвышэння Святога Крыжа, якое адлюстроўвае вялікую павагу вернікаў да Крыжа Збаўцы. Таму ў сённяшнім нумары мы запрашаем вас праверыць свае веды пра традыцыі, звязаныя з гэтым святам, і яго гісторыю.**

**1 Калі адзначаецца свята Узвышэння Святога Крыжа?**



**А.** 14 верасня
**Б.** 3 мая
**В.** 8 верасня

**2 Хто ўстанавіў свята Узвышэння Святога Крыжа?**



**А.** Папа Грыгорый I
**Б.** Папа Ян I
**В.** Папа Марцін I

**3 Кім, паводле падання, быў знойдзены Святы Крыж?**



**А.** Патрыярхам Макарыем
**Б.** Імператарам Канстанцінам
**В.** Святой Аленай (маці імператара Канстанціна)

**4 Як, паводле падання, высветлілі, што гэта быў менавіта той крыж, на якім сканаў Збаўца?**



**А.** Прыкладзены да яго памерлы ўваскрос
**Б.** Пазналі па таблічцы з надпісам
**В.** Пазналі па месцы знаходжання

**5 Што пабудавалі на Галгоце, каб ушанаваць адшуканы Святы Крыж?**



**А.** Плошчу з крыжам пасярэдзіне
**Б.** Дзве базілікі
**В.** Маленькую каплічку, у якой павінен быў знаходзіцца адшуканы крыж

**6 Доўгі час паралельна са святам Узвышэння Святога Крыжа існавала таксама іншае свята, якое адзначалася 3 мая. Што гэта было за свята?**



**А.** Адшуканне Святога Крыжа
**Б.** Захаванне Святога Крыжа
**В.** Шанаванне Святога Крыжа

**7 Са святам Узвышэння Святога Крыжа звязаны даўні звычай будаваць "кальварыі", якія сімвалізавалі ерузалемскую Кальварыю. Як звычайна выглядае такое месца?**



**А.** Крыжы на могілках
**Б.** Крыжы на высокім месцы
**В.** Крыж пры дарозе



**8 Чаму свята Узвышэння Святога Крыжа адзначаецца 14 верасня?**



**А.** У гэты дзень была скончаная будова святыні над пячорай Гробу Пана ў Ерусаліме
**Б.** Гэта гадавіна першага выстаўлення рэліквій Крыжа для публічнага ўшанавання
**В.** У гэты дзень св. Алена загадала пачаць пошук святога Крыжа

**9 Што сталася са Святым Крыжам?**



**А.** Рэліквіі Святога Крыжа былі разасланыя па ўсім свеце
**Б.** Ён знік падчас заваявання Ерусаліма арабамі
**В.** Ён захоўваецца на тым жа месцы ў Ерусаліме

**10 Гэты абраз быў напісаны ў XVIII стагоддзі ў гонар адшукання Святога Крыжа. У якой краіне ён знаходзіцца?**



**А.** Польшча
**Б.** Беларусь
**В.** Літва

*Падрыхтавала* ***Лаліта Арлоўская***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**



# Легендарны футбаліст Раналду прыняў сакрамант хросту

**Легендарны бразільскі футбаліст Раналду, а дакладней Раналду Луіс Назарыю дзі Ліма, быў ахрышчаны ў Каталіцкім Касцёле. "Сёння асаблівы дзень. Я ахрышчаны!" — напісаў 46-гадовы футбаліст на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы Instagram.**

Ён прызнаўся, што хрысціянская вера заўсёды была фундаментальнай часткай яго жыцця з дзяцінства — нават калі ён яшчэ не быў ахрышчаны.

"Дзякуючы сакраманту хросту я сапраўды адчуваю сябе абноўленым як дзіця Божае — па-новаму, больш свядома і глыбей", — адзначыў ён.

У сваім паведамленні ў Instagram а. Фабіё дэ Мэла, які ўдзяліў сакрамант хросту, падзяліўся публікацыяй Раналду і напісаў: "Мой дарагі сябар, дзякуй, што даверыў мне такі важны момант у сваім жыцці!"

Да таго часу калі Раналду яшчэ не быў ахрышчаны, ён меў сувязь з каталіцкім касцёлам у мінулым. Яго суайчыннік Пеле аднойчы падарыў Папу Францішку сваю футбольную форму, а Раналду — футбольны мяч з яго подпісам, які зараз знаходзіцца ў Ватыканскім музеі.

У сваім паведамленні ўсацыяльнай сетцы Instagram Раналду таксама глядзіць у будучыню і заяўляе: "Я аднаўляю свае абавязацельства ісці шляхам дабра, па ўласнай волі, у веры ў любоў Езуса Хрыста, у любові да бліжняга".

*Паводле deon.pl*
*Фота: Instagram*
*пераклад* ***Марыны Ткач***



## На кастрычнік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**2 кастрычніка – дзень нараджэння** адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**4 кастрычніка – дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **імяніны** адзначаюць **кс. прэлат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**7 кастрычніка – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**8 кастрычніка – дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Лужкі)*, **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**11 кастрычніка – імяніны** адзначаюць **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*; **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**12 кастрычніка – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Алег Зямчонак**; **кс. Уладзіслаў Шарковіч**;

**13 кастрычніка – імяніны** адзначаюць **кс. канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**18 кастрычніка – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, *дырэктар Карытас-Беларусь*;

**22 кастрычніка – дзень нараджэння** адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*; **імяніны** адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**28 кастрычніка – імяніны** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*.

*Падрыхтаваў* ***кс. кан. Віктар Місевіч***

# У Мінску адзначылі 225-годдзе з часу заснавання Мінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі

**2 верасня ў катэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску адбыўся шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных 225-годдзю з часу заснавання гістарычнай Мінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі.**







Святкаванне ў галоўнай каталіцкай святыні сталіцы распачалося з сімпозіума, падчас якога прысутныя даведаліся пра гісторыю Мінскай дыяцэзіі, яе былых іерархаў, а таксама пра дзейнасць на яе тэрыторыі манаскіх супольнасцяў у розныя перыяды.

У сімпозіуме ўзялі ўдзел біскупы на чале з Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Юзафам Станеўскім, духавенства, вернікі, а таксама прадстаўнікі Беларускай Праваслаўнай Царквы на чале з Мітрапалітам Мінскім і Заслаўскім Веніямінам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі, які ўпершыню наведаў галоўны касцёл Мінска, і лідары іншых традыцыйных у Беларусі рэлігій: супольнасці прагрэсіўнага юдаізму і мусульманскай супольнасці. Прысутнічаў таксама намеснік упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Сяргей Герасіменя.

Пасля сімпозіума быў прадстаўлены настаўраны герб Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Выяву распрацаваў італьянскі геральдысты Джузэпэ Куатрачокі. Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB распавёў удзельнікам мерапрыемства, які сэнс нясе ў сабе кожны з элементаў новага геральдычнага знака.

Пасля прэзентацыі герба з віншаваннямі да сабраных звярнуліся прысутныя рэлігійныя лідары. Мітрапаліт Веніямін у сваёй прамове прызнаўся, што яму было прыемна паслухаць, як складаўся лёс Касцёла ў Беларусі, адзначыўшы вялікае падабенства гістарычных шляхоў Беларускай Праваслаўнай Царквы і Каталіцкага Касцёла на нашай зямлі. "Нам вельмі важна асэнсаваць мінулыя дні. Да гэтага нас заклікае і Кніга кніг – Біблія. Праз асэнсаванне мінулага нам трэба будаваць будучыню і правільна жыць сённяшні дзень", – сказаў Патрыяршы Экзарх, дадаўшы, што намаганні Царквы і Касцёла ў сучасны момант скіраваныя да адной мэты: захаванне традыцыйных каштоўнасцяў і перадачу іх наступным пакаленням. Пра гэта, паводле кіраўніка Беларускай Праваслаўнай Царквы, павінны казаць усе чатыры традыцыйныя рэлігіі, прадстаўнікі якіх былі прысутныя на святкаванні. "У гэтым, я думаю, добрая будучыня Беларусі. У гэтым і добрая будучыня ўсяго свету", – сказаў Мітрапаліт Веніямін, пажадаўшы плённай працы дзеля квітнення роднай Беларусі.

Яшчэ адной навіной стала стварэнне інтэрнэт-старонкі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Плануецца, што ў перспектыве новы сайт будзе знаёміць чытачоў з навінамі мясцовага Касцёла. Ксёндз-канонік Юрый Санько, галоўны рэдактар архідыяцэзіяльнага сайта, прадэманстраваў яго структуру і распавёў пра тое, як прадстаўлены каталіцкі свет у беларускіх СМІ.

"Новая евангелізацыя – пошук мовы, якая, не скажаючы глыбокага сэнсу таямніцаў нашай веры, была б зразумелай сучаснаму свету і падыходзіла б да розных сітуацый і культур. Касцёл павінен распачаць дыялог з сучаснай культурай, каб ухіліць адлегласць, якая аддзяляе сённяшняга чалавека ад багацця Евангелля, даць яму адчуць блізкасць і жаданне салідарнасці зносін", – закрануў праблему евангелізацыі ва ўмовах лічбавых тэхналогій ксёндз Санько.

З нагоды юбілею поштай Беларусі быў выпушчаны адмысловы блок, які складаецца з дзвюх марак: "Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Мінску" з серыі "Архітэктура Беларусі. Каталіцкія храмы". Набыць маркі можна ў аддзяленнях Белпошты.

У межах святкавання адбылася цырымонія ўзнагароджання. Першым ганаровай граматай быў узнагароджаны папярэднік сённяшняга арцыпастыра – арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч.

Акрамя заслужанага іерарха, граматы ад імя арцыбіскупа Станеўскага атрымалі прадстаўнікі каталіцкіх СМІ, у тым ліку партал Catholic.by у асобе яго дырэктара ксяндза Аляксандра Уласа, супрацоўнікі дабрачынных арганізацый, удзельнікі малітоўных рухаў і евангелізацыйных супольнасцяў, навукоўцы і даследчыкі, стваральнікі музеяў і актыўныя парафіяне, а яшчэ шмат іншых людзей, якія рознымі дарамі служаць Касцёлу.

Інаўгурацыяй навучальнага года ў Мінскім тэалагічным каледжы імя святога Яна Хрысціцеля завяршылася першая частка святкавання, кульмінацыяй якога стала ўрачыстая святая Імша. Галоўнае, што ахвяроўвалі вернікі падчас гэтай Эўхарыстыі, была падзяка Богу. Перадусім яны дзякавалі за 225 гадоў існавання дыяцэзіі.

У гэтай інтэнцыі супольна маліліся арцыбіскуп Станеўскі, арцыбіскуп Кандрусевіч, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, Генеральныя вікарыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскупы Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB, найстарэйшы каталіцкі іерарх у нашай краіне біскуп Казімір Велікаселец, Апостальскі адміністратар для католікаў візантыйскага абраду ў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, а таксама святары, браты і сёстры законныя, свецкія вернікі.

Напачатку арцыбіскуп Станеўскі, які ўзначаліў цэлебрацыю, нагадаў яе ўдзельнікам, што Богу належыць усё: сучаснасць, мінулае і будучыня. "Сёння мы дзякуем пры гэтым алтары падчас святой Імшы за мінулае, за тых, хто вытрываў у веры, за сведкаў веры, за першага Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага кэндза-кардынала Казіміра Свёнтка і яго пакаленне. Мы глядзім з радасцю і надзеяй на вас, студэнты катэхетычнага каледжа святога Яна Хрысціцеля – гэта сучаснасць. Таксама мы глядзім у будучыню, цешымся і радуемся, што ёсць вашыя дзеці, вашыя нашчадкі, якіх вы ведзяце да святыні. Богу належыць усё. Таму няхай сёння будзе Богу падзяка і праз Бога людзям, которыя адчуваюць і разумеюць Касцёл як свой дом", – адзначыў арцыбіскуп.

Тэму падзякі Богу працягнуў у прамоўленай гаміліі біскуп Яшэўскі. Ён падкрэсліў, што скіроўваць да Бога свае просьбы не з'яўляецца чымсці дрэнным, але звярнуў увагу і на тое, наколькі часта вернікі дзякуюць за выслуханыя малітвы. "Чалавек, адроджаны Духам Святым, не толькі просіць, але і праслаўляе Бога, дзякуе Яму, узвялічвае Яго за тое, кім Ён ёсць і што зрабіў", – падкрэсліў іерарх. Ён нагадаў, што ў дзень адыходу з зямнога жыцця, калі чалавеку давядзецца стаць перад Богам, будзе мець значэнне толькі адно: ці ведае ён Бога, ці мае еднасць з Ім. "Бог чакае, каб мы праслаўлялі Яго, былі ўдзячныя і выяўлялі гэтую ўдзячнасць у штодзённым жыцці. Бо "хто прыносіць ахвяру падзякі, той Мяне шануе. І таму, хто беззаганны ў паводзінах, Я пакажу Божае збаўленне", – працытаваў Святое Пісанне біскуп Аляксандр Яшэўскі.

На заканчэнне святой Імшы было зачытанае прывітальнае слова Апостальскага нунцыя Антэ Ёзіча, а таксама з віншаваннем да прысутных звярнуўся біскуп Буткевіч. Перад благаслаўленнем канцлер Мітрапалітальнай курыі ксёндз-канонік Дзмітрый Пухальскі абвясціў дэкрэты арцыбіскупа Юзафа Станеўскага аб прызначэнні двух новых канонікаў Мінскага катэдральнага капітула, якімі сталі ксёндз Юрый Ясевіч і ксёндз Кірыл Бардонаў, а таксама аб устанаўленні герба Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

***Аляксандра Шпілеўская,* кс. Мікола Гракаў,** *тэкст,*
*catholic.by*
***Caritas** Мінск, фота*

# Катэхеты Віцебскай дыяцэзіі распачалі разам новы катэхетычны год

**9 верасня ў парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску адбылася сустрэча катэхетаў Віцебскай дыяцэзіі. Тэматыка – "Я – дарога і праўда, і жыццё, – кажа Пан" (Ян 14,6).**

■ **Алена Татун**, *тэкст;* **с. Марыя Шамовіч**, *фота*

Распачалося спатканне святой Імшой, якую цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч. Звярнуўшыся да прысутных, іерарх сказаў, што асноўная задача катэхета – "давесці дзяцей да сустрэчы з жывым Богам, Які не дзесьці там, у гісторыі, а тут і зараз".

Катэхізацыяй дзяцей і моладзі ў нашай дыяцэзіі займаюцца як святары і сёстры законныя, так і свецкія катэхеты. Якраз падчас сустрэчы была даручана кананічная місія Эме Станкевіч з Далёкіх. Тых, хто дапамагае ў хрысціянскім выхаванні будучага пакалення, стала больш на адну асобу. Біскуп Алег заахвоціў, каб катэхеты больш імкнуліся да супрацоўніцтва з бацькамі.




З нагоды святкавання 400-годдзя мучаніцкай смерці св. Язафата Кунцэвіча катэхетка з парафіі Святой Тройцы ў в. Канстанцінава (Глыбоцкі дэканат) Алена Татун распавяла прысутным пра асобу святога, які з'яўляецца апекуном Віцебскай дыяцэзіі. Прысутныя даведаліся не толькі яго біяграфічныя звесткі, але і пра асаблівыя рысы характару, пра яго працу на Божай ніве.

А потым усе з задавальненнем прынялі ўдзел у "Біблійным хаўрусе". Раздзяліўшыся на тры каманды, спаборнічалі як у веданні Святога Пісання, так і ў ведах твораў мастацтва і музыкі на рэлігійную тэму. Перамагло сяброўства! Усе атрымалі падарункі, а яшчэ – добры настрой і благаслаўленне на пачатак новага катэхетычнага года.

# Свидетельство выздоравливающего алкоголика

**Долгое время Юля не представляла, как можно жить полной жизнью без алкоголя, но она нашла в себе решимость пойти по пути выздоровления. Юля поделилась своей историей, чтобы помочь другим алкоголикам найти выход.**

– Первый раз я употребила алкоголь на дне рождения у подруги. Тогда мне было лет 10-12. Подруга была старше меня всего на год, но почему-то нам тогда налили шампанское. Мы выпили немного, всего полбокала, но мир сразу изменился. Голова кружилась, всё заиграло яркими красками, мне понравилось это ощущение.

Я сразу заметила за собой такую особенность: меня не устраивало выпить, чтобы немного опьянеть, меня привлекало в алкоголе именно изменение состояния. Сначала выпивать было задорно и весело, не приносило никаких проблем, даже если я перепивала. Иногда бывали потери в памяти. Я могла забыть, что происходило вчера, но в целом, что такое похмелье, я ещё не знала.

Первой заметила мою проблему мама. Тогда это было уже невозможно не заметить. Алкоголь в то время уже начал приносить неприятности. На работе мне тоже говорили, что у меня проблемы. Я всё отрицала, но, вместе с тем, не могла понять, как можно жить без алкоголя. Жизнь без алкоголя казалась скучной, грустной. К тому же все нормальные люди пьют.

Когда стало совсем плохо и я поняла, что надо что-то делать, мама предложила мне кодироваться. Я согласилась на кодирование неохотно. Это не было моим желанием, где-то внутри я ещё боялась скучной безалкогольной жизни больше, чем своих запоев. Первую кодировку я продержалась полгода, сорвавшись на свой день рождения. В тот день я решила только немного выпить в честь праздника. И, сделав это, я увидела, что ничего страшного со мной не произошло. Тогда я подумала: "Ну ладно, значит можно, я же буду понемногу". Так снова начались мои запои.

Как-то на работе мы выезжали на конкурс, я сильно волновалась и решила выпить, чтобы успокоиться. После конкурса мы с коллегами собрались отмечать и мне налили немного коньяка. Этого хватило… Совершенно не помню, как я оказалась дома. На следующий день я очень боялась идти на работу, мне было стыдно, страшно. Коллеги перешёптывались.

После этого я решила кодироваться для себя. Но окончание кодировки я спланировала на отпуск, чтобы там иметь возможность расслабиться и выпить. Если вдруг что-то неприятное произойдёт, всё равно никто ничего не увидит. Но я почему-то думала, что за время чистоты в кодировке что-то произойдёт, и я снова смогу пить как нормальные люди. Я же теперь всё знаю, понимаю, я уже столько всего прошла и точно смогу победить алкоголь. Но каждый раз я проигрывала и оказывалась в запое. Позже в АА мне объяснили, что я не могу пить на физическом уровне просто потому, что мой организм так реагирует на алкоголь.

Однажды, стоя в очереди в магазине, я увидела на стеллаже брошюру АА в моём городе. Я посмотрела их адрес, села на велосипед и поехала. Находились они на другом конце города. Приехав туда я увидела, как заходят другие люди, и испугалась. Мне было стыдно зайти. В тот день я так и не смогла победить свой стыд и попасть на собрание.

Спустя год я практически разошлась с мужем, от этого мне было очень плохо, а ещё моя очередная кодировка подходила к концу. В общем складывалась потрясающая ситуация для запоя. Тогда по совету мамы я легла в наркологию. В то время АА проводили открытые собрания в наркологии, я решила пойти. На собрании люди рассказывали истории своего употребления. Это были достаточно жуткие вещи, но я понимала, что они описывают те состояния, которые я тоже переживала. Это было невозможно придумать, я поняла, что это свои люди. Но когда они попросили меня рассказать что-то о себе, я заплакала и сказать ничего не смогла.

После выписки я начала ходить на собрания АА. В первое время я ничего не понимала, не могла раскрыться, но один из них сказал мне тогда: "Ты не расстраивайся, просто ходи, потом всё поймёшь". Я подумала: "А почему не ходить? Денег они не требуют, все мне рады, обстановка комфортная", – и осталась. Я ходила на все собрания, очень старалась. Потом прошла программу "12 шагов". Конечно, было много очень странных страхов: не хватит времени, не хватит ума… Но оказалось, чтобы пройти программу большого ума не надо.

Спустя неделю после наркологии мне предложили выпить пиво. Я опять попала в ловушку "ну я же немножко, я же теперь знаю", и не важно, что я совсем недавно лежала в наркологии. И я почти согласилась, но в момент принятия решения мне позвонил человек с группы. Он хотел добавить меня в группу в вайбере, и я поняла, что это знак, мне нельзя пить. В тот день я отказалась от пива. Это был первый, самый яркий случай, который хорошо показывает, как работает мозг алкоголика. К счастью, потом мне объяснили, что я никогда больше не смогу контролировать своё употребление.

После прохождения программы "12 шагов" у меня сильно изменилось отношение к жизни, к людям. За это время я развелась с мужем, было тяжело, но я осталась трезвой. Были и другие жизненные трудности, но мысли пойти выпить и забыться уже нет. Конечно, улучшились отношения с мамой, дочкой. Сейчас просто могу смотреть открыто людям в глаза, потому что раньше такого не было.

*Свидетельство со слов **Юли** записала*
***Лолита Орловская***

## Капліца ў Віцебскай абласной клінічнай лякарні

**Святая Імша там цэлебруецца кожную трэцюю сераду месяца а 16.00.**

Па просьбе пацыентаў і індывідуальнай дамоўленасці са святаром святая Імша можа быць адпраўлена ў іншы дзень і час.
Капліца знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

***Кантакты:***
***+375 29 785-12-98 – кс. Генадзь***
***+375 29 597-32-01 – Марыя***

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29
**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

## Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**



**"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Андрэй Кулік**! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння (26 жніўня)! Жадаем здароўя на доўгія гады, поспехаў у святарскім служэнні і добрых людзей на жыццёвым шляху! Няхай ва ўсім дапамагае Вам Пан Бог, а Маці Божая атуляе сваёй апекай і любоўю!*

***З пажаданнямі, бацькі і сёстры з сем'ямі***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Аляксей Ляшко**! Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння (21 верасня)! Няхай Усемагутны Бог адорыць Вас ласкай мудрасці, веры, надзеі, любові для святарскага служэння і кіравання нашай парафіяй! Маці Божая хай дапамагае быць верным сведкам Хрыстовага вучэння, атуляе сваёй апекай і ўкрывае нябесным плашчом у цяжкія хвіліны, выпрошвае ў свайго Сына неабходныя ласкі! Жадаем Вам моцнага здароўя і даўгалецця, штодзённай радасці, душэўнага супакою, моцы і цярплівасці, каб весці людзей да Бога, здзяйсненне мараў і задумаў, добразычлівых людзей побач. Няхай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць добры плён!*

*Дзякуем Вам, ксёндз Аляксей, што прыязджаеце да нас, не шкадуючы сіл і здароўя, за ўпрыгожванне святыні, за клопат і чуласць, за добрыя справы на карысць парафіі! Сто гадоў Вам, паважаны наш Ойча!*

*Дзякуем Вашай маме за сына-святара! Жадаем ёй Божага благаслаўлення, патрэбных ласкаў, здароўя, супакою і моцнай веры!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***

### Хвала Хрысту!



*Мы ўдзячныя Богу за дар святара ў нашай парафіі і хочам павіншаваць **ксяндза Славаміра Самковіча** з Днём нараджэння. Няхай Усемагутны Бог заўсёды беражэ Вас, дае сілы на кожны дзень служэння! Няхай Дух Святы шчодра адорвае Вас патрэбнымі дарамі і ласкамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя ўзносіць разам з намі просьбы да свайго Сына, каб узмацняў Вас у служэнні нашай супольнасці і ўсяму Касцёлу! Няхай Панна Марыя асаблівым чынам трымае Вас, кс. Славамір, у сваёй апецы і атуляе сваім матчыным плашчом!*

***Вернікі парафіі Божай Міласэрнасці ў Пагошчы***

### Хвала Хрысту!

*31 жніўня адзначыў Дзень нараджэння **ксёндз Уладзімір Заянчкоўскі.***

*Паважаны ксёндз Уладзімір! Віншуем Вас з гэтай нагоды і дасылаем самыя сардэчныя пажаданні: каб жыццёвыя дарогі былі шчаслівыя, каб здароўе не падводзіла, каб Вашы мары здзяйсняліся, каб побач было шмат добрых людзей!*

*Вялікі дзякуй за вялікую працу, якую Вы здзяйсняеце! Наш касцёл прыгажэе з кожным годам, а прыкасцельная тэрыторыя радуе вока сваёй упарадкаванасцю.*

*Па Вашай руплівасці ў жніўні ў наш касцёл прывезлі 19 абразоў Маці Божай. Шмат людзей змаглі памаліцца і занесці свае інтэнцыі да Нябеснай Заступніцы.*

*Шаноўны ксёндз Уладзімір! Няхай Дух Святы заўсёды вядзе Вас шляхамі пастырскага служэння, няхай Маці Божая адорвае радасцю і любоўю, а Божая міласэрнасць будзе з вамі і Вашымі роднымі!*

*Мы ўсе будзем маліцца за Вас.*

***Вернікі касцёла св. Казіміра ў Лепелі***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад усяго сэрца дасылаем святочнае віншаванне для нашага **ксяндза-пробашча Тадэвуша Кавальскага** з нагоды дня яго святарскага пасвячэння (19 верасня).*

*Дарагі і паважаны ойча Тадэвуш! Прыміце, калі ласка, ад усіх вернікаў нашай парафіі самыя шчырыя і сардэчныя пажаданні ў гэты святочны дзень. Мы жадаем Вам і Вашым родным моцнага здароўя, даўгалецця! Няхай Божая Міласэрнасць заўжды будзе з Вамі і Вашымі роднымі! Няхай Добры Пан Бог разам з Паннай Марыяй і ўсімі святымі не пакідаюць Вас аднаго, клапоцяцца пра Вас, дапамагаюць у вельмі цяжкай святарскай працы, ахоўваюць ад бедаў і хвароб! Няхай на душы ў Вас заўсёды будзе радасна, лёгка, спакойна і светла, а побач будзе Ваш святы заступнік Юда Тадэвуш са сваёй дапамогай!*

*Шаноўны ойча Тадэвуш! Дзякуем за Вашу святарскую працу, за прыклад вялікай любові да Пана Бога, да кожнага з нас, за дапамогу ў нялёгкі час, за чуласць і дабрыню сэрца, за Вашы казанні, якімі мы заслухоўваемся!*

*Благаслаўлення Божага і вялікага шчасця Вам, Вашым родным, святарам, братам і сёстрам з касцёла Святой Тройцы ў Докшыцах!*

***З павагай, любоўю і малітвамі, вернікі касцёла Хрыста Валадара ў Бягомлі***





## Што паглядзець? Фільм "Паліяна"

**Што добрага можа прынесці дзяўчынка-сірата ў жыццё цёці, якая згадзілася яе выхоўваць? Шмат радасці, пяшчоты і дабрыні. І гэтыя радасць, пяшчота і дабрыня, нібы сонечныя промні, здольныя сагрэць і жанчыну і шмат людзей навокал.**

Не разумееце, пра што я? Тады раю паглядзець цудоўную кінастужку "Паліяна". У яе сюжэт пакладзены аднайменны раман англійскай пісьменніцы Элеанор Портэр.

Трэба сказаць, што першая экранізацыя кнігі адбылася яшчэ ў 1923 годзе, потым – у 1960 і 1973 гадах. Апошняя каляровая версія англійскага рэжысёра Сары Хардзінг убачыла свет у 2003 годзе.

Сюжэт кінастужкі нагадвае наіўнае дзіцячае апавяданне. У маленькай адзінаццацігадовай Паліяны паміраюць бацькі. Адзіная яе сваячка – заможная і панурая жанчына – цёця Полі, прымае дзяўчынку да сябе.

Калісьці тата навучыў Паліяну адной гульні – знаходзіць радасць у любых сітуацыях. І гэтую гульню дзяўчынка прапаноўвае кожнаму, каго б ні сустрэла. Але пазней становіцца зразумелым: фільм напоўнены глыбінёй, добрымі думкамі, якія нават можна ўзяць у штодзённае жыццё, а напрыканцы – і драматызмам.

Трэба сказаць, што Паліяну нельга назваць дзяўчынкай, з якой можна браць прыклад: яна бывае непаслухмянай, вучыцца без асаблівай ахвоты, робіць дзіўныя рэчы, што прыходзяць ёй у галаву. Але гэтае дзіця натхняе і захапляе сваёй непасрэднасцю, дабрынёй, пяшчотай і любоўю да жыцця.

Цёця Полі – суровая жанчына з чэрствым сэрцам. Яна дазваляе жыць пляменніцы ў самым бедным пакоі ў доме і забараняе нават размаўляць пра памерлага тату. Жыццё Паліяны магло б быць сумным і нецікавым. Але дзяўчынка з дзіцячай непасрэднасцю шукае радасці. Гэтая радасць у самых дробных рэчах: шклянцы малака з хлебам, брашуры пра мух, кветках, якія растуць у садзе.

Сваю гульню Паліяна прапаноўвае людзям, каторыя жывуць побач з ёй: хворай жанчыне, пакаёўцы, садоўніку, панураму суседу, што зламаў нагу. Гэтыя пошукі радасці натхняюць людзей, распальваюць сэрцы, перамяняюць жыццё.

На працягу кінастужкі гледачы ўбачаць і гісторыю кахання, і цікавыя лёсы галоўных герояў, а таксама будуць сведкамі драматычных падзей у жыцці Паліяны. Асаблівую атмасферу фільму надаюць прыгожыя строі пачатку XX стагоддзя, а таксама тагачасныя будынкі, мэбля, карціны і краявіды.

Не буду пераказваць сюжэт фільма, але шчыра запрашаю яго паглядзець. Дарэчы, стужку можна смела рэкамендаваць для сямейнага прагляду.

Жадаю кожнаму знайсці час на годнае кіно і прынамсі адну нагоду для радасці.

*Падрыхтавала **Вікторыя Філіпенка***

## 18 кастрычніка ў 18.00 распачнецца малітоўная акцыя "Мільён дзяцей моліцца на Ружанцы" ў Беларусі

Ужо чацвёрты год Дабрачынная Місія Добрага Самараніна пад апекай Святой Уршулі Ледухоўскай арганізуе малітоўнае чуванне з удзелам дзяцей. Шчырая дзіцячая малітва, якая праслаўляе Бога, самая чыстая. Такі зварот неадкладна будзе пачуты Госпадам, бо ён будзе ісці ад самага сэрца.

Мільён дзяцей моліцца на Ружанцы – сусветная ініцыятыва, арганізаваная Папскім фондам "Дапамога Касцёлу ў патрэбе". Галоўная мэта гэтай малітоўнай кампаніі – паказаць, што даверлівая малітва дзяцей можа, як страла, ляцець проста да сэрца Бога і такім чынам змяняць свет. Таму ўявіце, якой моцнай будзе ружанцовая малітва, у якой дзеці будуць разам прасіць аб супакоі і згодзе ў іх сем'ях, народзе і ва ўсім свеце!

Дзеці нашмат больш адкрытыя на ружанцовую малітву, чым шмат хто з дарослых. Калі ружанец адмаўляць правільна і пад адпаведным кіраўніцтвам, нашыя адносіны з Марыяй будуць паглыбляцца – яны стануць тым больш блізкімі, чым даўжэй будзем маліцца. Менавіта такім глыбокім адносінам з Маці Божай мы можам навучыцца ад дзяцей!

Запрашаем дзетак і бацькоў прыходзіць у Хрысціянскі Сацыяльны Цэнтр (вул. Серафімовіча, 19, г. Мінск). Кожны ахвотны можа далучыцца да анлайн-малітвы (спасылка будзе на сайце ў дзень трансляцыі).



*Samaranin.by*

# Біскуп Буткевіч: "У 90-я Renovabis першай падставіла нам плячо"

**"Каталіцкая дабрачынная арганізацыя Renovabis, якая сёлета адзначае 30-гадовы юбілей, з самага пачатку існавання дапамагала аднаўленню Каталіцкага Касцёла ў Беларусі пасля савецкіх часоў", – адзначыў старшыня епіскапату Беларусі.**

Біскуп Алег Буткевіч прыняў ўдзел у Кангрэсе Renovabis, што праходзіць у гэтыя дні ў Мюнхене. Гісторыя адраджэння касцельных структур, манаскіх супольнасцей, саміх храмаў у Беларусі непарыўна звязаная з гісторыяй ініцыятывы Renovabis, якая адной з першых дапамагала ўзняцца хрысціянскай веры на пачатку 1990-х.

"Мы якраз у мінулым годзе святкавалі юбілей адраджэння Касцёла ў Беларусі, менавіта гэта час інтэнсіўнага супрацоўніцтва з Renovabis, якая нам дапамагла ў справе адбудовы. Мы на мюнхенскай сустрэчы хочам сказаць словы падзякі за дапамогу", – прызнаўся іерарх.

За 30 гадоў ініцыятыва салідарнасці каталікоў Германіі з хрысціянамі Усходняй Еўропы ажыццявіла амаль 26 тысяч праектаў у дзясятках краін, але хоць фінансавая дапамога мае вялікую ролю, найперш за дзейнасцю дабрачыннай арганізацыі стаіць нашмат больш сэнс, падкрэсліў беларускі іерарх.

"У першую чаргу, што мы можам вынесці з гісторыі супрацоўніцтва, – дык гэта сведчанне адкрытасці чалавека, сведчанне гатоўнасці дапамагаць і ўпэўненасці выправіць тыя памылкі, якія былі зробленыя. За аднаўленнем храмаў стаіць аднаўленне жывога Касцёла, стаяць вернікі, якія бачаць падтрымку, міласэрнасць, веру, бо матывацыя, што кіруе гэтай арганізацыяй, – гэта супрацоўніцтва веры", – дадаў біскуп Буткевіч.

Віцебскі пастыр нагадаў, што кожны праект, падтрыманы Renovabis у Беларусі, мае вялікую вагу. Гэта адбудова архікатэдральнага касцёла Найсвяцейшага Імя Марыі ў Мінску, Касцёла святога Антонія ў Віцебску, арганізацыя адпачынку дзяцей і моладзі, часта з малазабяспечаных сем'яў, дапамога ў душпастырскай справе, у адукацыі вернікаў.

Нягледзячы на падтрымку звонку, сёння Касцёл у Беларусі вучыцца разлічваць на свае сілы. "Перад намі стаіць важнае заданне: навучыцца даваць сабе раду, вызходзячы з тых умоў, у якіх мы знаходзімся, навучыцца шукаць самастойна сродкі для функцыянавання, адказна і дысцыплінавана падыходзіць да арганізацыі любых уласных праектаў, якія дапамогуць развівацца Касцёлу", – патлумачыў біскуп Буткевіч.




27-мы Кангрэс Renovabis праходзіў у Мюнхене з 12 па 15 верасня. На форуме прысутнічалі госці з многіх краін Еўропы.

*кс. Аляксандр Амяльчэня*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Знаёмцеся: гэта мае маці і айцец! Ці ўсё ж: гэта мае маці і бацька?

**Пытанне, вынесенае ў загаловак, на першы погляд, падаецца не надта актуальным, дробязным. Але часам на практыцы мы сутыкаемся з няправільным ужываннем згаданых вышэй назоўнікаў, тым больш што блытаніны дадаюць, як гэта ні дзіўна, і некаторыя нашыя слоўнікі.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Вось што піша чытачка "Каталіцкага Веснікa" спадарыня Наталля з Віцебска ў лісце ў моўную рубрыку газеты: "Я ўжо многа гадоў лічу сябе верніцай-практыкам. Да таго ж я настаўніца. Ведаю ўсе асноўныя малітвы, знаёмая з рэлігійнымі тэрмінамі і паняццямі. І мне здавалася, што мы не можам ужываць назоўнік **айцец** па-за рэлігійным кантэкстам. Чаму здавалася? А таму, што ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (ТСБМ) я са здзіўленнем знайшла ў адпаведным слоўнікавым артыкуле тлумачэнне, якое прымусіла мяне звярнуцца ў моўную рубрыку нашай газеты. Так, на с. 206 (т. 1) названага слоўніка чытаем: "Айцец – 1. Служка культу. 2. Мужчына ў дачыненні да сваіх дзяцей; бацька". І нават ёсць ілюстрацыя з народных выслоўяў: *Ці я ў мамкі не радзілася, / Ці ў* ***айца*** *не гадавалася*. З першым значэннем усё зразумела, так і павінна быць. Але як з другім? Ці сапраўды можна па-беларуску ў якасці сіноніма ўжываць слова **айцец**?"

Мы палічылі пытанне спні Наталлі важным не толькі для яе, але і для ўсіх, хто неабыякавы да культуры беларускага слова. Таму ў гэтым матэрыяле паспрабуем разабрацца, як павінна быць на самай справе.

Сапраўды, у ТСБМ падаюцца два значэнні назоўніка *айцец*, як слушна заўважае наша чытачка. Але на той жа старонцы слоўніка прапануецца яшчэ і прыметнік *айцоўскі* з дэфініцыяй "які мае адносіны да айца; бацькоўскі". І ў якасці ілюстрацыі прыведзены фрагмент з твора Максіма Багдановіча: *Слёзы ў старога цяклі і дрыжалі* ***айцоўскія*** *рукі.* Дык што тады атрымліваецца з ужываннем згаданых словаформаў, калі яны ёсць і ў творах нашых класікаў?

Заўважым, што словы *ойтець* і *ойцець* са значэннем "бацька, духоўнік" ужываліся ў старажытнай беларускай мове, на што ўказвае "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (ЭСБМ, Т. 1. Мінск, 1978. С. 98). Калі верыць цытаванаму раней фрагменту з ТСБМ, то атрымліваецца, што назоўнік **айцец** выступае ў якасці сіноніма да слова **бацька.** Але ж гэта ніяк не карэлюе з сучаснай моўнай практыкай. Мы памятаем, што мова знаходзіцца ў няспынным руху, лексічны склад пастаянна змяняецца: нешта выходзіць з актыўнага ўжытку, штосьці, наадварот, новае замацоўваецца ў маўленні. Таму ў дадзенай канкрэтнай сітуацыі нам не варта ісці механічна ўслед за слоўнікам, нават калі ён лічыцца нарматыўным. Бо жыццё ўносіць свае карэктывы ў моўную практыку.

Зразумела, што слова **айцец** сёння мы можам ужываць толькі ў дачыненні да святара. Таму правільнымі будуць і папулярныя спалучэнні кшталту **духоўны айцец**, **святы айцец**. Як, дарэчы, і прыметнік **айцоўскі**: *З* ***айцоўскім*** *наказам звярнуўся да вернікаў пробашч парафіі; Ксёндз больш за дзесяць гадоў годна выконваў свой* ***айцоўскі*** *абавязак у мястэчку*. Можа ўжывацца таксама і прыслоўе **па-айцоўску**: *Святар* ***па-айцоўску*** *апекаваўся хворымі вернікамі; Словы ксяндза гучалі* ***па-айцоўску*** *мудра*.

Такім чынам, у нашым загалоўку правільная толькі адна канструкцыя – *Гэта мае маці і* ***бацька****.* Будзем памятаць, што назоўнік **айцец**, прыметнік **айцоўскі**, прыслоўе **па-айцоўску** ў беларускай мове могуць ужывацца толькі для абазначэння духоўных асобаў, святароў. І не павінны выкарыстоўвацца як сінанімічныя да слоў *бацька, бацькоўскі, па-бацькоўску*.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Біблійны лексікон: апраўданне

**Чытаючы Біблію, мы можам сустрэць словы і тэрміны, не да канца нам зразумелыя, хоць па інтуіцыі мы больш-менш "здагадваемся", пра што ідзе гаворка. Трэба лічыцца з тым, што лексікон Святога Пісання мае свае нюансы, на якія мы рэдка звяртаем увагу ў штодзённым карыстанні мовай. Таму патрэбныя пэўныя высілкі, каб правільна ўспрымаць Божае аб'яўленне.**

**Аднак такое намаганне прынясе шчодры плён: калі ў гэтым працэсе мы адкрываемся на святло Духа Святога, адбываецца навяртанне нашага розуму і сэрца. Бог сваім словам пераменяе нашае ўспрыманне рэчаіснасці і, перш за ўсё, адносінаў – з Ім і з нашымі бліжнімі.**

Адным з такіх нялёгкіх для непасрэднага разумення паняццяў з'яўляецца "апраўданне". Гэта слова найчасцей знаходзім у пасланнях апостала Паўла (асабліва ў Пасланні да Рымлянаў), аднак яно сустракаецца таксама, напрыклад, у прыпавесці Езуса пра малітву мытніка і фарысея ў ерузалемскай святыні: Пан кажа, што мытнік, просячы Бога аб міласэрнасці, адыходзіць "апраўданы", а фанабэрысты фарысей – не (Лк 18, 14). Напэўна, першая асацыяцыя са словам "апраўданне", якая прыходзіць у галаву, – гэта судовы працэс, дзе **абвінавачаны** можа быць "апраўданы", гэта значыць, ачышчаны ад **абвінавачванняў**. Так можа адбыцца, бо даказана адсутнасць дзеянняў супраць закону альбо таму, што знойдзены змякчальныя акалічнасці. Іншая сітуацыя – калі хтосьці "апраўдваецца" ў адказ на крытыку ці вымову: шукае і прыводзіць аргументы, якія адхіляць віну. У кожным з гэтых выпадкаў парушана пэўная раўнавага, правільны стан рэчаў. Хтосьці паступіў несправядліва, і трэба вярнуць гармонію. Гэтыя прыклады часткова дапамагаюць зразумець, што маецца на ўвазе ў Святым Пісанні, калі ідзе гаворка пра апраўданне чалавека Богам: там таксама справа ў тым, што трэба выправіць стан рэчаў, які наступае праз парушэнне гармоніі, справядлівасці. Але што значыць "справядлівасць"? Нам і трэба цяпер разгледзець.

### Справядлівасць і праведнасць

Габрэйскае слова *ṣedāqāh (tsedaka)*, як і грэцкае *dikaiosýnē*, мае два асноўныя значэнні: справядлівасць і праведнасць.

У каталіцкім перакладзе на беларускую мову найчасцей ужываецца слова "справядлівасць" ("справядлівы" і г.д.) і ў адносінах да Бога, і да чалавека, але варта памятаць, што, падобна як з акрэсленнем "святы", гэтая якасць у першую чаргу належыць Богу, а чалавеку – у той меры, у якой ён прыпадабняецца да Бога ў сваім жыцці. Дарэчы, калі хтосьці карыстаецца класічным – Сінадальным – перакладам на рускую мову, то заўважыць, што "праведный" адносіцца да чалавека, а "справедливый" – найчасцей да Бога. Трэба таксама мець на ўвазе, што "справедливость" перакладаецца старым адпаведнікам "правда", а тое, што мы сёння называем "правдой", перакладаецца як "истина". Таму, напрыклад, у выразе "блаженны алчущие и жаждущие правды" насамрэч гаворыцца пра прагненне справядлівасці.

Справядлівы, або праведны чалавек – гэта той, хто паважае і падтрымлівае правільны стан рэчаў: не толькі з Богам і з іншымі людзьмі, але і з усімі Божымі стварэннямі. Што гэта за правільны стан рэчаў, чалавек даведваецца дзякуючы Божаму аб'яўленню, дадзенаму праз Запавет. Запаведзі і нормы, якія знаходзім у Пісанні, канкрэтызуюць жаданы праз Бога стан гармоніі. Але гаворка, канешне, не проста пра знешнія паводзіны, бо ўчынкі чалавека нараджаюцца ў яго ным сэрцы (пар. Мц 15, 19). Менавіта на гэтым – на неабходнасці глыбокай унутранай перамены, а не проста знешніх паводзінах – настойвае Пан Езус у Евангеллі (пар. Мц 5, 20).

Важнай рысай справядлівасці як цноты з'яўляецца гатоўнасць дзейнічаць дзеля аднаўлення, адбудовы гармоніі і міру, калі яны парушаныя. Ад імя Бога аўтар псальму пасля пераліку беззаконных паводзінаў чалавека ўсклікае: "Ты гэта рабіў, а Я маўчаў. Ты думаў, што Я падобны да цябе? Я буду абвінавачваць цябе і адкрыю гэта перад табою" (Пс 50 (49): 21). Цяпер нам трэба разгледзець, як жа Бог дзейнічае, калі справядлівасць растаптаная, знішчаная.

### Цяжба Бога з чалавекам

Бог, верны свайму Запавету з чалавекам, заўсёды захоўвае справядлівасць. Чалавек жа, наадварот, часта парушае свае абяцанні. Што рабіць, калі гэта адбываецца? Пан паважае свабоду чалавека, але, як толькі што было сказана, Ён не можа пакінуць несправядлівы стан рэчаў у якасці нармальнага. Як тлумачаць экзегеты, у Святым Пісанні мы знаходзім такі спосаб камунікацыі, як цяжба, спрэчка (*rîb* па-габрэйску): пакрыўджаны бок прад'яўляе свае прэтэнзіі ў адносінах да крыўдзіцеля і часта робіць гэта ў вельмі эмацыйнай форме, шчыра выказваючы той разбуральны эфект, які маюць несправядлівыя дзеянні. Для ілюстрацыі таго, як гэта адбываецца паміж людзьмі, варта прачытаць урывак Быц 31, 22-55: там красамоўна апісана спрэчка паміж Лабанам і Якубам, дзе абодва агучваюць свае прэтэнзіі адзін да аднаго. Мэта такой спрэчкі – не абраза іншай асобы, не знішчэнне міру, а вяртанне гармоніі, раўнавагі, справядлівасці. Канешне, тут неабходная гатоўнасць прабачыць віну і даць новы шанец крыўдзіцелю. Пан Езус у Евангеллях неаднойчы заахвочвае да таго, каб наўпрост мірыцца з тым, з кім ёсць нейкі канфлікт, бо інакш справа дойдзе да суда і тады наступствы могуць быць вельмі негатыўнымі (пар. Мц 5, 25).

На старонках і Старога, і Новага Запаветаў мы чуем часам вельмі жорсткія звароты, скіраваныя Богам праз пракрокаў да свайго народу, дзе Пан выказвае сваю "крыўду": дакладна называе тое, у чым правініліся Яго верныя. Дастаткова пачытаць пачатак кнігі Ісаі (1, 2-20), дзе адрасаты прарока акрэсліваюцца як "князі садомскія і гаморскія", або прамовы Езуса да фарысеяў (Мц 23, 13-36), дзе Яго суразмоўцы названыя "пабеленымі пахавальнямі". Такія заклікі не могуць быць нейтральнымі па сваёй форме: Пану не ўсё роўна, што адбываецца з Яго дзецьмі. Ён – не халодны, бясстрасны суддзя, які проста агучвае прысуд. Такі эмацыйны стыль мае на мэце ўзварушыць, скалануць таго, хто заблукаў, каб даць яму ўсвядоміць усю небяспеку супярэчнасці з Божай воляй паводзінаў. У той жа час Пан адкрывае дарогу да *навяртання* (у габрэйскай мове адно са значэнняў гэтага слова – менавіта "вяртацца": вярнуцца да Бога, на правільны шлях). У такім разуменні адносінаў паміж партнёрамі Запавету лягчэй убачыць, як справядлівасць ідзе побач з міласэрнасцю, як гэтыя дзве якасці Бога – і нашыя, пры жаданні – насамрэч не супярэчаць адна адной.

### Апраўданыя любоўю

Такім чынам, апраўданне як дар Бога праз Яго Сына, памерлага і ўваскрослага дзеля нас, – гэта ўсталяванне нанова справядлівых, гарманічных адносінаў са стварэннем, якое збочыла з правільнага шляху, але гатовае вярнуцца на добрую дарогу, прымаючы міласэрную любоў і прабачэнне. Гэтыя новыя адносіны заснаваныя на глыбокай блізкасці, абумоўленай унутранай пераменай: сваёй ласкай, якая дасягае самых нетраў нашай істоты, Бог, наш Тата, Які нас любіць, прыцягвае да сябе сэрца, "неспакойнае, пакуль не знойдзе супакой у Ім" (св. Аўгусцін). Нам не трэба шукаць "самаапраўдання": мы апраўданыя, паяднаныя Божай любоўю, якой "дарэшты палюбіў" нас Бог у Сваім Сыне, і зноў і зноў дае нам доказы гэтай любові, выліваючы на нас сваю міласэрнасць. Няхай усведамленне гэтай праўды будзе прычынай няспыннай хвалы Богу на нашых вуснах!

*Айцец Віктар Жук, SJ*



# Біскуп Юрый Касабуцкі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам падчас парафіяльнай урачыстасці ў Мёрах

**15 жніўня парафія ў Мёрах адзначыла патранальнае свята – урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Ганаровым госцем адпусту стаў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі, які ўзначаліў канцэлебраваную святую Імшу а 18-ай гадзіне і ўдзяліў сакрамант канфірмацыі.**

На свята сабралася шмат парафіянаў і гасцей. Праз супольную ружанцовую малітву і сакрамант пакаяння вернікі рыхтаваліся да годнага перажывання Эўхарыстыі. На пачатку святой Імшы пробашч парафіі ксёндз Андрэй Кулік прывітаў прысутных і прадставіў святароў, якія прыбылі з суседніх парафій, а таксама Браслаўскага, Шаркаўшчынскага, Полацкага і Докшыцкага дэканатаў.

У прывітальным слове біскуп Юрый Касабуцкі адзначыў: "Мы сабраліся разам, каб праславіць Багародзіцу ў такі важны дзень – Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. У дзень, калі мы адзначаем трыумф Багародзіцы. Трыумф, бо з душой і целам Яна была ўзятая на неба і атрымала ўзнагароду за сваё зямное жыццё, за сваю веру, за сваё "Так", якое было сказана Богу. Мы сабраліся ў гэты дзень разам, каб памаліцца ў інтэнцыях, катрыя маем у сэрцы, а таксама за пробашча, за парафію і за ўсіх, хто прыме сёння сакрамант канфірмацыі".

У сваёй гаміліі Яго Эксцэленцыя, развіваючы тэму ўнебаўзяцця, адзначыў, што Марыя была ўзятая на неба, дзе заняла годнае месца і была ўкаранаваная на Каралеву неба і зямлі. "Але, перш за ўсё, яна Матуля, Якая нарадзіла Езуса і была з Ім да канца, да крыжа. Марыя прыкладам свайго жыцця паказала, што кожны чалавек можа ўвайсці ў Божае валадарства, калі будзе выконваць запаведзі і спаўняць Божую волю. <...>

Жыць паводле запаведзяў нам дапамагае Дух Святы, Якога мы прымаем у сакраманце канфірмацыі. Ён дапамагае нам таксама даваць сведчанне веры і рабіць правільны выбар там, дзе гэта патрэбна: у нашым асяродку, у непрадбачаных сітуацыях. Мы павінны заўсёды памятаць, што Пан Бог любіць і чакае кожнага з нас у сваім валадарстве, а Марыя, як наша нябесная Матуля, прагне, каб мы былі шчаслівымі".

Пятнаццаць маладых людзей, урачыста вызнаўшы веру, з хваляваннем і радасцю прынялі сакрамант хрысціянскай сталасці, каб, узмоцненыя Духам Святым, на ўзор Марыі наследаваць Хрыста.

Напрыканцы Імшы моладзь выказала шчырыя словы ўдзячнасці і ўручыла кветкі Яго Эксцэленцыі біскупу Юрыю Касабуцкаму за ўдзелены сакрамант, а таксама пробашчу парафіі ксяндзу Андрэю Куліку за духоўную падрыхтоўку да сакраманту хрысціянскай сталасці.

Затым адбылося традыцыйнае асвячэнне кветак і пладоў новага ўраджаю. Пазнаму вернікі падыходзяць да аздаблення плёну сваёй працы, але галоўнае – шчырая радасць ад таго, што ёсць што прадставіць Пану Богу і чым падзяліцца з бліжнім.

Пасля Літургіі адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, падчас якой памаліліся Літаніяй да Найсвяцейшай Панны Марыі. Кульмінацыяй свята стала эўхарыстычная працэсія вакол касцёла.

Адпустовая ўрачыстасць прайшла зладжана і прыгожа. У гэтым заслуга найперш літургічнай службы і парафіяльнага хору, які ўпрыгожыў Эўхарыстыю сваімі спевамі. Пасля набажэнства пробашч парафіі падзякаваў прысутным за супольную малітву і ўдзел ва ўрачыстасці. Асаблівыя словы ўдзячнасці прагучалі ў адрас тых, хто прычыніўся да яе падрыхтоўкі.

*Жанна Закрэўская, kaselmery.by*

# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

Пахвалёны Езус Хрыстус. Прывітанне, дарагі дружа. Вось і падыходзіць да канца месяц верасень. Ты, напэўна, распачаў навучанне ў школе, нават атрымаў першыя адзнакі. Спадзяюся, яны добрыя.

А ці ведаеш ты, што ў верасні ў Каталіцкім Касцёле таксама вельмі шмат важных цікавых падзей. З некаторымі з іх я прапаную табе пазнаёміцца

## заданне №1

14 верасня Касцёл адзначае Свята Узвышэння Святога Крыжа. Падчас Літургіі Слова чытаецца ўрывак з Евангелля ад Яна 3, 13-17. Прачытай яго і адкажы на пытанні крыжаванкі.




1. Да каго звяртаецца Езус ва ўрыўку Евангелля?
2. Хто ўзняў змяю ў пустыні?
3. Езус называе сябе Сын…
4. Якое жыццё будзе мець чалавек, што паверыць у Хрыста?
5. Бог паслаў свайго Сына, каб свет быў …

## заданне №2

Размалюй ілюстрацыю і адкажы на пытанні.



Дзе ў тваім доме знаходзіцца крыж?
Якія малітвы ты ўзносіш перад крыжам?

## заданне №3

Прачытай урывак з Евангелля ад Яна 19, 25–27. Сярод прапанаваных абвядзі імёны асобаў, якія засталіся пад крыжам Езуса Хрыста.




**29 верасня** ў Касёле адзначаецца **Свята святых Арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала**. Прапаную табе даведацца некалькі цікавых фактаў пра гэтых святых.

**Арханёл Міхал** — Апякун Касцёла ў Беларусі. Князь Анёлаў, Анёл Справядлівасці, Ахоўнік Раю, Абаронца Хрыстовага Касцёла, Князь Душаў – такімі тытуламі называюць Арханёла Міхала. Імя Міхал па габрэйску азначае “хто як Бог?” У Святым Пісанні, Арханёл Міхал узгадваецца ў Апакаліпсісе святога Яна Багаслова (Ап 12, 7-12), дзе апісваецца змаганне Анёлаў Божых на чале з Арханёлам Міхалам і ўзбунтаваных супраць Бога анёлаў сатаны.

**Арханёл Габрыэль** добра вядомы нам са старонак Евангелля.Ён прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына — святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста.

**Арханёл Рафал** згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў, лечыць іх, а таксама апякуецца і спрыяе тым, хто ў дарозе.

Арханёл Міхал лічыцца апекуном вайскоўцаў, Габрыэль – паштароў, а Рафал – медыкаў.

## заданне № 5

Разгледзь выявы арханёлаў і правільна падпішы іх імёны







___________ ___________ ___________

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***




**Ужо стала добрай традыцыяй, што на пачатку кастрычніка, асабліва Марыйнага месяца, па ініцыятыве айцоў-дамініканцаў у магілёўскай катэдры адбываецца Ружанцовы кангрэс.**

У 2023 годзе сёмы па ліку кангрэс пройдзе ў суботу, 7 кастрычніка, пад дэвізам "Марыя і ружанец у дамініканскай школе малітвы" і прысвечаны Юбілею – 240-годдзю Магілёўскай архідыяцэзіі.

Арганізатары запрашаюць узяць удзел у кангрэсе ўсіх ахвотных, а асабліва тых вернікаў, якія належаць да ружанцовых колаў.

**Праграма**

9.30 — Рэгістрацыя ўдзельнікаў.

10.20 — Адкрыццё кангрэса.

10.30 — Даклад арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча – "Митрополит Сестренцевич-Богуш и установление Могилевской Митрополии".

11.15 – 11.55 — Даклад кс. кан. Ігара Лашука – "Слуга Божы айцец Фабіян Малішэўскі OP".

Пасля дакладаў — пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова.

12.15 — Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Святы Ружанец.

13.00 — Агульны фотаздымак і абед.

14.00 — Даклад Хрысціны Лялько – "Бл. П'ер Джорджа Фрассаці OPs".

14.45 – 15.15 — Даклад а. Юрыя Саковіча – "Святая Ружа з Лімы OP".

Пасля дакладаў — пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова.

15.30 — Перапынак.

16.00 — Сведчанні пра плён Ружанцовых Кангрэсаў у Магілёве і ружанцовай малітвы.

16.35 — Падрыхтоўка да святой Імшы.

17.00 — Святая Імша пад кіраўніцтвам Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Юзафа Станеўскага, казанне – біскуп Юрый Касабуцкі.

Ружанцовы кангрэс у Магілёве – гэта аднадзённае мерапрыемства, падчас якога мы заслухаем чатыры канферэнцыі, звязаныя з тэмай кангрэса, і будзем разам маліцца на ружанцы. Вы таксама зможаце коратка засведчыць аб моцы ружанцовай малітвы ў асабістым і сямейным жыцці.

Рэгістрацыя абавязковая. Арганізатары просяць паведаміць пра свой удзел да 1 кастрычніка. Для таго, каб зарэгістравацца, дастаткова пазваніць або даслаць SMS-паведамленнем інфармацыю пра ўдзельнікаў:
- імя, прозвішча
- мясцовасць, назва парафіі
- колькасць асобаў, якія будуць удзельнічаць у кангрэсе
- нумар тэлефона.

Кантакты: а. Раман Шульц OP, тэл. +37529 291-92-11 (Viber, Telegram); schulzop@gmail.com

**Адрас:** Катэдра Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Станіслава, вул. Камсамольская, 4, г. Магілёў.

# У Браславе прайшла летняя школа касцельнага спеву

**З 14 па 19 жніўня пры парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі праводзілася летняя школа касцельнага спеву. У ёй прынялі ўдзел ахвотныя з Браслава, Магілёва, Мінска, Заслаўя, Віцебска і іншых мясцін.**

Ініцыятарам школы спеву з'яўляецца арганістка Браслаўскай парафіі Іна Сапун. Заняткі праходзілі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Неўдаха, арганіста архікатэдральнага касцёла ў Мінску, дацэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, у супрацоўніцтве з Ірынай Арлоўскай і Таццянай Брытко.

Курс навучання ўключаў пастаноўку голасу для харыстаў і кантараў, харавы спеў, а таксама азнаямленне з сэнсам літургіі, значэннем асобных частак святой Імшы і прынцыпамі адбору рэпертуару для літургіі. Вывучаліся асаблівасці арганнага суправаджэння ў літургічным спеве. Заняткі наведвалі як дарослыя, так і дзеці.

Своеасаблівым вынікам заняткаў стаў спеў удзельнікаў падчас галоўнай святой Імшы ва ўрачыстаць Маці Божай Браслаўскай.

*waladarka.by*



# Каляндар на кастрычнік

**2 кастрычніка** – успамін св. Анёлаў Ахоўнікаў.

**4 кастрычніка** – успамін святога Францішка Асізскага

**5 кастрычніка** – успамін св. Фаўстыны Кавальскай, панны.

**6 кастрычніка** – успамін св. Бруна, прэзбітэра.

**7 кастрычніка** – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.

**9 кастрычніка** – успамін св. Дыянісія, біскупа, і паплечнікаў, мучанікаў; успамін св. Яна Леанардзі, прэзбітэра.

**10 кастрычніка** – свята гадавіны пасвячэння катэдральнага касцёла ў Віцебску.

**11 кастрычніка** – успамін св. Яна XXIII, папы.

**14 кастрычніка** – успамін св. Калікста I, папы і мучаніка.

**16 кастрычніка** – успамін св. Ядзвігі, законніцы; успамін св. Маргарыты Марыі Алякок, панны.

**17 кастрычніка** – успамін св. Ігнацыя з Антыёхіі, біскупа і мучаніка.

**18 кастрычніка** – свята святога Лукі, евангеліста.

**19 кастрычніка** – успамін св. Жана дэ Брэбёфа і Ісаака Жога, прэзбітэраў, і паплечнікаў, мучанікаў з Канады; успамін св. Паўла ад Крыжа, прэзбітэра.

**23 кастрычніка** – успамін св. Яна Капістрана, прэзбітэра.

**24 кастрычніка** – успамін св. Антонія Марыі Клярэта, біскупа.

**28 кастрычніка** – свята св. Сымона і Юды, апосталаў.

**Падпішыся на "Каталіцкі Веснік"**

**Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".**

**Наш падпісны індэкс – 63783**

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – А; 3 – В; 4 – А; 5 – Б; 6 – А; 7 – Б; 8 –Б; 9 – А; 10 – Б

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4157

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 28.08.2023 г. у 7.55

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by


ISSN 2224-9621
9772224962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь